


*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і мастацтва

ШТОТЫДНЁВІК

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 6 красавіка 1990 г. № 14 (3528) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


## У НУМАРЫ:



«Песняры» святкуюць юбілей... Нават не верыцца, што ўжо два дзесяткі гадоў не сыходзіць з музычнай эстрады суполка пад кіраўніцтвам Уладзіміра Мулявіна. 20 гадоў — за такі час гадуецца, выпраўляецца ў дарослае жыццё новае пакаленне. 20 гадоў на эстрадзе — гэта рэкорд даўгалецця: неспадзявана хутка тут мяняюцца лавевы моды і прыхільнасці, сутыкаюцца паміж сабою разнастайныя захапленні, густы. Успыхваюць, бляннуць ды знікаюць паціху чарговыя шлягеры, чарговыя куміры...

Як жа не зразумець сур'ёзнасць, не ацаніць унікальнасць мастацтва «Песняроў»! Як не ўспомніць пачатак 70-х, калі самыя розныя людзі — ад пажылых вяскоўцаў да сталічных школьнікаў і іх інтэлігентных бабуль — узрушана слухалі па радыё новы ансамбль. Беларуская песня ў выкананні хлопцаў з *электрагітарамі — гэта была не проста нязвыклая*, свежая, сучасная з'ява ў музыцы, у папулярным жанры. Для нас тады гэта быў смелы, прынцыповы грамадзянскі ўчынак. Нездарма ж, не жартам казалі, што «Песняры», маўляў, зрабілі для беларускай мовы больш за многіх літаратараў ды навукоўцаў...

«ЛіМ» ніколі не пакідаў без увагі творчасць гэтых музыкантаў, спраўна адгукаўся і на буйныя работы апошніх гадоў. Неўзабаве чытачы сустрэнуцца на нашых старонках з народным артыстам БССР У. Мулявіным, мастацкім кіраўніком ансамбля. А сёння на здымку — У. Мулявін (справа) і саліст І. Пеня ў час выступлення на юбілейным творчым вечары Беларускага дзяржаўнага ансамбля «Песняры».

Урачыстасць адбылася ў зале філармоніі 1 красавіка, і прыйшлі сюды слухачы розных пакаленняў. Музыканты выканалі новую праграму, прысвечаную 500-годдзю Скарыны, нагадалі песні са свайго «залатога фонду». Артыстаў віталі міністр культуры БССР Я. Вайтовіч, старшыня праўлення СТД рэспублікі М. Яроменка, маскоўскі кампазітар А. Пахмутава... *Прысутнічалі на вечары* першы сакратар ЦК КПБ Я. Сакалоў, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР М. Дзямянцей, другі сакратар ЦК КПБ А. Камай.

Фота Ул. КРУКА.

# «АБ'ЯДНАЦЦА ВАКОЛ ДОБРЫХ СПРАЎ»

**4 красавіка ў праўленні Саюза пісьменнікаў Беларусі адбылася сустрэча з госцем з Аўстраліі, віцэ-прэзідэнтам савецка-аўстралійскай фірмы «Развіццё» Аляксандрам ДЖАМІРЗЕ. У сустрэчы прынялі ўдзел старшыня праўлення СП БССР Максім Танк, першы сакратар праўлення Васіль Зуёнак, Васіль Быкаў і інш.**

**Прозвішча Джамірзе многія ў нашай краіне ўжо ведаюць. Пра дабрачынную дзейнасць гэтай вялікай сям'і (браты і сёстры Джамірзе — дзеці эмігрантаў з Савецкага Саюза) не раз пісалася ў цэнтральнай прэсе, паведамлялася па ЦТ. Члены сям'і Джамірзе пабывалі з місіяй міласэрнасці ў Арменіі пасля страшнага землетрасення, дапамагаюць дзецям-сіротам у Маскве. У час візіту М. І. Рыжкова ў Аўстралію Джамірзе прысутнічалі на ўрачыстай вячэры ў яго гонар.**

**А. Джамірзе ахвотна пагадзіўся адказаць на пытанні нашага карэспандэнта.**

**— Што прывяло вас на Беларусь?**

— Мы, наша сям'я, не маглі застацца ўбаку ад чарнобыльскай трагедыі. Калі мы з радыёперадачы даведаліся пра сітуацыю ў вашай рэспубліцы, нам стала ясна: нельга сядзець склаўшы рукі. Думаю, самае страшнае, што можа быць у сучасным свеце — абыякавасць. Трагедыя Чарнобыля тычыцца нас усіх. АЭС ёсць у многіх краінах. І ніякія межы, цяпер



ясна, не ўратуюць людзей пры выпадку аварыі.

Што можна рэальна зрабіць? Фірма «Развіццё» гатова пастаўляць у вашу рэспубліку высокакаларыйныя, высакаякасныя прадукты харчавання, якія проста неабходныя хворым і аслабленым радыяцыяй дзецям, —мёд, чай, сухафрукты, арэхі. Першая партыя гэтай прадукцыі ўжо чакае адпраўку з Аўстраліі... Але ёсць яшчэ шмат нявырашаных праблем. Патрэбны сховішчы на месцах, транспарт. Патрэбна і дапамога грамадскіх арганізацый, якія заняліся б, у прыватнасці, размеркаваннем прадуктаў. Мы разлічваем на падтрымку з боку Саюза пісьменнікаў Беларусі. Дэталі магчымага супрацоўніцтва абмяркоўваліся, дарэчы, на сённяшняй сустрэчы. Але праблем, падкрэсліваю, яшчэ шмат. Асабліва калі маем справу з вашымі афіцыйнымі ўстановамі.

**— Значыць, дабрачынная дзейнасць сутыкаецца з перашкодамі?**

— На жаль, гэта так. Нас далёка не ўсе і не заўсёды сустракаюць у вашай краіне добразычліва. У прынцыпе, гэта можна зразумець — наша дзейнасць прымушае чыноўнікаў рухацца, прымаць рашэнні. А гэта часам выяўляе некампетэнтнасць, няўменне працаваць. Але ж міжнароднае супрацоўніцтва жыццёва неабходнае. Мы павінны аб'яднацца вакол добрых спраў.

**— Калі ласка, некалькі слоў пра фірму «Развіццё». Што яна з сябе ўяўляе?**

— Фірма «Развіццё», маскоўскі філіял якой я ўзначальваю, займаецца распрацоўкамі ў галіне будаўнічых матэрыялаў, будаўніцтвам сельскагаспадарчых аб'ектаў, рэкультывацыяй зямель, а таксама маркетынгам і г. д. Мы спрабуем стварыць асацыяцыю (садружнасць) дробных і сярэдніх прадпрыемстваў Аўстраліі і Савецкага Саюза. У Мінску, напрыклад, плануем стварыць арганізацыю па развіцці гандлю. І, зразумела, мы зацікаўлены ў развіцці культурных сувязей паміж нашымі краінамі.

# У ГОНАР СЛАВУТАГА ЗЕМЛЯКА

**Выканком Віцебскага гарадскога Савета народных дэпутатаў прыняў рашэнне аб правядзенні падрыхтоўчай работы па камплектаванні фондаў і зборы сродкаў для арганізацыі музея Марка Шагала. З гэтай мэтай пры аддзеле культуры гарвыканкома адкрыты спецыяльны рахунак. Усіх жадаючых заклікаюць прыняць удзел у стварэнні музея. На рахунак № 200700328 у аблупраўленні жылсацбанка могуць пералічвацца сродкі асобнымі грамадзянамі, прадпрыемствамі, установамі, кааператывамі і іншымі арганізацыямі з адзнакай: «У фонд музея М. Шагала». Інвалютныя паступленні прымаюцца Знешэканамбанкам БССР па адрасе: Беларуская ССР, г. Мінск, Знешэканамбанк, аддзел культуры Віцебскага гарвыканкома (для музея Марка Шагала).**

**Матэрыялы, якія маюць адносіны да жыцця і дзейнасці мастака, накіроўваць на адрас аддзела культуры гарвыканкома: 210005, БССР, г. Віцебск, вул. Леніна, д. 15.**

# ЯКОЙ БЫЦЬ ПАРТЫІ

**З партсходу СП БССР**

Сёння гэтае пытанне нельга абысці, ухіліцца ад прамога і шчырага адказу на яго. Наша грамадства нібы збілася з прамога і, здавалася, адзіна правільнага шляху і ў разгубленасці прыпынілася, каб разгледзець гарызонты, знайсці новыя арыенціры. На гаманкіх плошчах і шумных стадыёнах, дзе гудуць мітынгі, у залах і аўдыторыях, дзе ідуць спрэчкі і дэбаты, людзі шукаюць адказы на нялёгкія пытанні жыцця. Яны стаміліся ад няпэўнасці, доўгага стаяння на краі бездані, палахлівага шарахання ў бакі. Вось чаму так горача і зацікаўлена абмяркоўваецца сёння ў працоўных калектывах Платформа ЦК да маючага адбыцца з'езда партыі і праект Статута КПСС. Фактычна вырашаецца сёння лёс нашай краіны, нашай партыі. Абмеркаванне названых дакументаў адбылося 28 сакавіка і ў Доме літаратара на сходзе камуністаў СП БССР. З дакладам выступіў сакратар парткома В. Супрунчук. Сваімі меркаваннямі па Платформе ЦК КПСС і праекце Статута КПСС выказалі А. Жалязоўскі, В. Жуковіч, А. Махнач, В. Аколава, В. Хомчанка, І. Дуброўскі, Э. Валасевіч, А. Вольскі, С. Элькінд, У. Якутаў, А. Сілянкоў, Н. Пашкевіч і інш.

Думкі былі розныя. Адны з іх *лічаць, што патрэбна* адна партыя, моцная і здаровая, каб прадухіліць хаос і неразбярыху ў краіне. Іншыя ж стаяць на пазіцыях многапартыйнасці, маўляў, толькі гэта можа быць гарантам *нашага руху* наперад. Выказвалася прэтэнзія да тых, хто адною нагою ў партыі, а другою—у БНФ. Гучалі заклікі разабрацца ў сабе, вызначыць кожнаму сваю пазіцыю, азначыць сваю платформу. Выступаючыя выказалі сваё непаразуменне тым, *што* БНФ, які існуе рэальна, да гэтага часу не зарэгістраваны як правадзейная арганізацыя. Выказваліся думкі, што кіраўніцтву рэспублікі трэба пайсці на дыялог з БНФ.

У нас няма чалавека, сказаў у сваім выступленні А. Махнач, хто б не вітаў тое добрае, што робіць народны фронт. Аднак пазіцыі кіраўніцтва ў адносінах да яго незразумелыя. А трэба сесці і пагаварыць. Пагаварыць карэктна, каб не дапусціць раз'яднання нашага народа. Сёння нам нельга быць паасобку.

Востры крытыцы падверглася і пазіцыя некаторых партыйных выданняў, у прыватнасці, газеты «Вячэрні Мінск» і часопіса «Политический собеседник». Хто і як кіруе гэтымі партыйнымі выданнямі? Ці тут пазіцыя неўмяшання? З гэтымі і іншымі *пытаннямі* камуністы звярнуліся да загадчыка

# НЕФАРМАЛЬНЫЯ КАМУНІСТЫ?

**Нататкі з адной канферэнцыі**

Устаноўчая канферэнцыя «Дэмакратычнай платформы ў КПСС» пачалася на паўгадзіны пазней вызначанага часу. Старшыня аргкамітэта А. Жыватнюк пажартаваў: «Паколькі мы нефармалы, то нам даруецца». За жартам стаіць сумная рэчаіснасць. Да самой ідэі дэмакратычнага руху ў межах Камуністычнай партыі мясцовыя партыйныя ўлады паставіліся, мякка кажучы, насцярожана. За дзень да канферэнцыі арганізатарам было адмоўлена ў абяцаным Доме палітасветы. Сярод 200 дэлегатаў (а прадстаўлялі яны звыш чатырох тысяч камуністаў Беларусі) значыліся толькі адзін член абкома, два сакратары гаркома і 26 вызваленых партработнікаў. Запрашэнні, разасланыя ў высокія партыйныя ўстановы, былі па сутнасці праігнараваны.

Тон жа задавала тэхнічная і навуковая інтэлігенцыя. Гучалі шматлікія абрэвіятуры—НДІ, СКБ, НПА, КБТМ — і такія найменні, як «Гарызонт», «Інтэграл», «Гомсельмаш», БДУ імя Леніна, інстытут культуры, інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі, Брэсцкі педінстытут, Віцебскі тэлевізійны завод і іншыя. Некаторыя з выступаючых, як дэлегаты, так і госці, прадстаўлялі партыйныя клубы рэспублікі.

Як жыць далей? Заставацца паслухмянай большасцю ці ўсё ж выйсці з палітычнай спячкі? Пытанні, якія прагучалі ў адным з выступленняў, рана ці позна ўстаюць перад кожным сумленным камуністам. І ад таго, якім будзе адказ, у многім залежыць лёс перабудовы, лёс народаў СССР.

Удзельнікі канферэнцыі ўзялі за аснову праект «Дэмакратычная платформа да XXVIII з'езда КПСС», які надрукавала газета «Правда» ў рамках дыскусійнага лістка. Мэта аб'яднання — дэмакратызацыя партыі, ператварэнне яе з таталітарнай *у парламенцкую, а бліжэйшая* задача — прамыя альтэрнатыўныя выбары на з'езд. На канферэнцыі гаварылася пра палітызацыю народа, пра рост актыўнасці радавых камуністаў, гучала крытыка лініі ЦК КПБ, прыводзіліся прыклады прымітыўнага маніпуліравання грамадскай думкай на старонках партыйнага друку.

Было адзначана, што ўсе грамадскія працэсы ў Беларусі праходзяць на фоне Чарнобыля — нашай нацыянальнай катастрофы. Удзельнікі канферэнцыі прынялі адпаведную рэзалюцыю, дзе гаворыцца, у прыватнасці, пра забарону ўсіх відаў гаспадарчай дзейнасці на заражанай тэрыторыі. Камуністы Гомеля выступілі з ініцыятывай адлічваць 50 працэнтаў партыйных узносаў у фонд пацярпеўшых ад аварыі.

Гаварылася і аб тым, што плюралізм, не знаходзячы легальнага выхаду, можа ператварыцца ў выбуховую сілу. Прынцып дэмакратычнага цэнтралізму паралізуе ўсё ўнутранае жыццё КПСС, робіць яе тормазам у перабудове. Няма адзінага шляху для ўсіх народаў, падкрэсліў і Ю. Шышко з ПА «Мінгандальаўтатранс». Ён выступіў за самастойнасць КПБ і рашуча сцвердзіў: не партыя і нават не ЦК КПСС былі ініцыятарамі перабудовы, а М. С. Гарбачоў.

Паколькі дэмакратычны рух у КПСС успрымаецца некаторымі як імкненне да фракцыйнасці, то, натуральна, узніклі спрэчкі пра адзінства партыі і небяспеку расколу. Тут *меркаванні разышліся.* Адзінства партыі давяло яе да сённяшняга стану, сказаў дацэнт Брэсцкага педінстытута І. Катляр. Апарат укамплектаваны тымі самымі асобамі, якія не так даўно ўмацоўвалі застой. Дык ці трэба з імі кансалідавацца?

Не было аднадушша і ў наступным пытанні: ці патрэбна ўсім несці груз віны за мінулыя «памылкі»? Прывяду цытаты,

**Р Э П Л І К А**

# «СИЛ БЫЛО ДОСТАТОЧНО...»

Сучасная тэхніка можа калі не ўсё, дык многае. Той, хто быў 25 лютага на шматтысячным мітынгу ў Мінску, мог пераканацца ў гэтым, убачыўшы рэпартаж аб ім па Беларускім тэлебачанні. З дапамогай камеры з шырокавугольным аб'ектывам стваралася ўражанне, быццам на паўпустой плошчы сабралася маленькая купка людзей. Справа тут, зрэшты, не ў тэхніцы, а ў тым, хто ёй карыстаецца. Важна, хто глядзіць у вока тэле- або кінакамеры і, галоўнае, — што ў ім бачыць. На жаль, зрок, бывае, падводзіць і вопытных журналістаў.

У тым, што адбывалася ў Мінску і ў многіх іншых гарадах 25 лютага, можна, канечне, убачыць усяго толькі «страсці натоўпу». І назваць тыя падзеі, як гэта робіць А. Майсеня ў сваім артыкуле «Когда опасен экстремизм?» («Советская Белоруссия», 3 красавіка г. г.) разгулам нацыянал-шавінізму і палітычнага экстрэмізму.

Узнікае пытанне — можа, у А. Майсені і падобных яму журналістаў ёсць нейкі рэцэпт хімічна чыстай дэмакратыі? Дэмакратыі, калі можна так сказаць, без свабоды слова і сходаў, без мітынгаў і маніфестацый. Як мы маглі нядаўна пераканацца, нават на радзіме парламенцкай сістэмы — у Англіі — здараюцца бурныя дэманстрацыі. Нават з бойкамі і крушэннем вітрын у рэспектабельным Лондане. Добра гэта? Ну, зразумела, вельмі і вельмі блага. Але ж *чамусьці нават* у лонданскай паліцыі не ўзнікла і думкі пра тое, каб хоць часова скасаваць права на дэманстрацыі.

Зразумела, было б добра, калі б не ўзнікала прычын для мітынгаў і маршаў пратэсту. Было б *лепш, каб палітычныя,* сацыяльна-эканамічныя і нацыянальныя праблемы вырашаліся не на плошчах і вуліцах, а ў дзяржаўных установах. А калі гэтыя праблемы не вырашаюцца гадамі? (Апошняй акалічнасці, дарэчы, не адмаўляе і *аўтар артыкула). Лепш бы* кіраўніцтву рэспублікі і БНФ высвятляць адносіны, скажам,

## З пошты «ЛіМа»

# • «Будзем вымушаны настойваць...»

# • Па сваім часе

# • Прыедуць да нас госці

□

**Нарыс** А. Казловіча «Аўтабіяэкалаграфія», змешчаны ў «ЛіМе» 9 сакавіка г. г., напомніў мне даўнюю размову з паэтам Аляксеем Пысіным. Было гэта гадоў пятнаццаць таму — у лесе каля станцыі Друць. Паўсюль былі відаць сляды неахайнай дзейнасці меліяратараў. На месцы учарашніх балот — кучы пяску. А ў летнім лесе — суш. Мох ажно трашчаў пад нагамі. Аляксей Васільевіч расказаў мне тады пра пісьмо, якое ён паслаў у ЦК КПСС і ў якім пратэставаў супраць неабдуманых планаў суцэльнай меліярацыі Палесся. Праз нейкі час, расказваў пісьменнік, яго выклікалі ў ЦК КПБ. Але гаварыць з ім наконт пісьма не пажадаў ніводзін загадчык аддзела, удалося сустрэцца толькі з нейкім дробным чыноўнікам. Той, мяркуючы па размове, што адбылася ў яго кабінеце, не зразумеў, ці не захацеў зразумець аргументаў пісьменніка. Афіцыйнага адказу з Масквы Пысін так і не атрымаў.

Ведаю, што Аляксей Васільевіч пры жыцці не раз дзяліўся думкамі, выказанымі ў тым пісьме, з дваюрадным братам Міхаілам, а таксама з Віктарам Карамазавым і іншымі пісьменнікамі. Ведаю і тое, што пісьмо знаходзіцца зараз у архіве ЦК КПБ. Ці не прыйшоў час абнародаваць яго? Як сказаў паэт: пакуль зямля жывая — і ты жывы.

**В. АРЦЕМ'ЕЎ, краязнавец.**

□

**Стала вядома,** што значная колькасць ракетных баз Узброеных Сіл СССР размешчана на тэрыторыі Беларусі («Аргументы и факты», № 6, 1990). Мы, безумоўна, разумеем, што Беларусь павінна ўносіць пэўны ўклад у абарону ўсяго Саюза ССР. Аднак выклікае здзіўленне колькасць ракетных баз, несувымерная ні з агульнай колькасцю рэспублік, ні з доляй БССР у агульнай тэрыторыі ці насельніцтве СССР.

У перадвыбарчай платформе Беларускага экалагічнага саюза ёсць пункт пра аб'яўленне Беларусі зонай, свабоднай ад ядзернай зброі і атамных станцый. Выходзячы з рэалій сённяшняга дня, мы лічым за неабходнае на першым этапе рэзкае скарачэнне ракетных баз на тэрыторыі рэспублікі да ўзроўню, які адпавядае долі БССР у агульнай тэрыторыі Еўрапейскай часткі СССР.

Мы ставім таксама пытанне аб канкрэтных захадах, што робяцца кіраўніцтвам суверэннай саюзнай рэспублікі для забеспячэння парытэтнага ўдзелу астатніх рэспублік Саюза ССР у агульнай абароне.

Нарэшце, улічваючы рэзкае скарачэнне, а ў перспектыве — і поўны вывад, Узброеных Сіл СССР у Венгрыі, Чэхаславакіі, Польшчы, лічым за неабходнае задаць пытанне: ці не будуць яны дыслацыраваны на тэрыторыі Беларусі? У сувязі з гэтым хацелася б таксама атрымаць інфармацыю аб агульнай плошчы, якую займае ў БССР Міністэрства абароны СССР у параўнанні з суседнімі рэспублікамі (Літвой, Расіяй, Украінай).

**Р. ГАРЭЦКІ, акадэмік; Я. ПЯТРАЕЎ, прафесар; Л. ТАРАСЕНКА—віцэ-прэзідэнты Беларускага экалагічнага саюза.**

□

**З заявы** Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР ад 29 сакавіка 1990 г. мы ўрэшце даведаліся аб лёсе «спрадвечна беларускіх тэрыторый», якія ў выніку рашэння вышэйшых органаў СССР і Літоўскай ССР былі перададзены гэтай рэспубліцы. Цяжка паверыць, але ўрэшце загучаў голас праўды, які даў аб'ектыўную ацэнку двухбаковаму «Дагавору аб перадачы Літоўскай рэспубліцы горада Вільня і Віленскай вобласці...» ад 10 кастрычніка 1939 г., што быў заключаны паміж Прэзідыумам Вярхоўнага Савета СССР і Прэзідэнтам Літоўскай рэспублікі «без паведамлення і згоды Беларускай ССР». Як слушна адзначаецца ў Заяве, дагавор гэты быў вынікам заключэння пакту Молатава — Рыбентропа і страціў сілу ў момант нападу Германіі на СССР.

Але ўсё гэта можа служыць фармальнай падставай для перадачы г. Вільні і Віленшчыны... Рэспубліцы Польшчы, бо гэтаму дзяржаўнаму ўтварэнню дадзеныя тэрыторыі, дзе палякі складалі пераважную большасць насельніцтва, належалі да 1939 года. Праўда, Польшча дагэтуль не выстаўляла ніякіх патрабаванняў адносна згаданых тэрыторый. Дзякуючы рашучай заяве Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР цяпер такая неабходнасць адпала.

Калі што і можна закінуць вярхоўным беларускім уладам, дык гэта тое, што яны будуць «вымушаны настойваць на вяртанні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы беларускіх зямель» толькі цяпер і толькі ў сувязі з выхадам Літвы з СССР. А хіба ж памянёныя землі перастаюць быць беларускімі ад таго, застанецца ці не Літоўская рэспубліка ў складзе СССР? Калі ўжо дзеялася несправядлівасць у адносінах да беларусаў паўночнага захаду Беларусі, дык ці варта было чакаць 50 гадоў і пакорліва лічыць сябе звязанымі «усімі законамі, указамі і іншымі актамі адносна перадачы Літве часткі беларускіх зямель» — замест таго, каб даўно заняць адпаведную пазіцыю? Надта агульна і цьмяна гучаць заключныя словы Заявы: «будзем вымушаны настойваць на вяртанні... беларускіх зямель». У якім выпадку? Толькі калі Літва аддзеліцца? Ці ўвогуле будзем настойваць на сваім?

Як бы там ні было, Заява гэтая будзе ўспрынята літоўцамі як пагроза. Клін паміж народамі, адвечнымі суседзямі і сябрамі, убіты «своечасова» і надзейна.

**Ю. ВАШКЕВІЧ.**

г. Мінск.

□

**З 25 сакавіка** людзі на Беларусі пачалі жыць па часе, набліжаным да іх біялагічнага часаадлічэння. Многія, калі не пераважная большасць грамадзян рэспублікі, з адабрэннем успрынялі такое рашэнне Дзяржаўнай камісіі адзінага часу і эталонных частот СССР. Але, разам з тым, у гэтым новаўвядзенні ёсць і заганныя моманты.

Хоць і былі неаднаразовыя звароты розных людзей адносна ўвядзення «беларускага часу» (пра гэта неаднойчы пісаў і «ЛіМ»), але пра рашэнне было абвешчана досыць нечакана. Гэта выклікала немалыя складанасці з пераводам на новыя расклады пасажырскага транспарту рэспублікі.

Але найбольшае непаразуменне стварыла ўжыванне здвоенага маскоўска-мясцовага часаадлічэння на вакзалах і ў аэрапортах Беларусі. На Прывакзальнай плошчы ў Мінску, напрыклад, на гадзінніку будзе адзінаццаць, а ў будынку вакзала стрэлку гадзінніка трэба перавесці на гадзіну наперад. Зноў жа, з мінскага аўтавакзала, калі хто едзе ў Віцебск ці Ліду, адпраўляцца а трынаццатай. Разам з гэтымі аўтобусамі ад перона адыдзе аўтобус на Рыгу. Але час адпраўлення яго будзе пазначаны ўжо на гадзіну пазней. У той час у Рыгу ён прыбудзе па «беларускім часе», арыентавацца ж давядзецца на «маскоўскі». Гэтаксама ўзнікаюць складанасці з паездкамі на электрычках. На гадзінніках мільёнаў жыхароў Беларусі будзе мясцовы час, у раскладзе ж і па радыётрансляцыі паведамляецца зусім іншы. Ці не парадокс гэта?

Думаецца, што было б прыдатным для людзей арыентавацца на мясцовы час кожнай канкрэтнай рэспублікі або вобласці. Кожны будзе ведаць, што, накіроўваючыся, скажам, у Маскву, Кіеў ці Бранск з Мінска, Гомеля, Брэста, на цягнік або аўтобус неабходна патрапіць па «беларускім часе». Пераехаўшы мяжу, чалавек усяго толькі перавядзе стрэлкі гадзінніка на гадзіну наперад і на пункт прызначэння прыбудзе па тамтэйшым часе. Накіроўваючыся ў прыбалтыйскія рэспублікі і вобласці, кожны ведае, стрэлкі пераводзіць не трэба. У раскладзе руху пасажырскага транспарту адпраўленне і прыбыццё неабходна пазначыць згодна з часам пунктаў адпраўлення і назначэння. У такім выпадку, думаецца, ні ў каго пытанняў узнікаць не будзе.

Вопыт такі ўжо маецца. Некаторыя рэгіёны краіны ўжо год праіснавалі з мясцовым часам. Нашаму Савету Міністраў трэба было б пераняць іх вопыт, скарэкціраваўшы яго на мясцовыя ўмовы.

**І. ЧАРНЯЎСКІ, археолаг.**

г. Мінск.

□

**Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР** «Аб узмацненні адказнасці за парушэнне патрабаванняў рэжыму радыяцыйнай бяспекі ў мясцовасцях, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджванню» выклікае не адно пытанне. Здзіўляе, скажам, мізэрнасць пакаранняў за парушэнні рэжыму радыяцыйнай бяспекі. Памяркуйце самі: самы вялікі штраф, які пагражае асобе за такое злачынства, — усяго 100 рублёў.

Нам не зразумела, чаму ў Віцебскай вобласці спынены дазіметрычны кантроль за транспартам, які прыбывае з радыеактыўных раёнаў рэспублікі. Па-ранейшаму носіць хаатычны характар перасяленне да нас людзей з пацярпелых мясцін. На прылаўках нашых магазінаў з'явіліся гомельскія прадукты. Нам, пакупнікам, гавораць, што нормы радыяцыі ў іх гранічна дапушчальныя. Але так гэта ці не так — мы не ведаем. Нас запэўніваюць і ў тым, што радыяцыйная абстаноўка ў рэспубліцы спрыяльная. Але мы хочам самі ў гэтым пераканацца з дапамогай высакаякасных дазіметраў, якіх пакуль што вельмі мала.

Прапануем адкрыць дабрачынны рахунак у Дзяржбанку і на атрыманыя сродкі закупіць дазіметры. Спадзяёмся на дапамогу ў гэтай справе кааператараў, іншых арганізацый і ўстаноў, якія могуць заключаць дагаворы на іх пастаўку замежнымі фірмамі. Пакуль нашы праектныя інстытуты распрацуюць і запусцяць дазіметры ў масавую вытворчасць, імі не будзе каму карыстацца. І так страчана ўжо амаль 4 гады.

І апошняе. Зараз у многіх гарадах устаноўлены электронныя табло, якія паказваюць час і тэмпературу паветра. Трэба, каб такія табло паказвалі і ўзровень радыяцыі.

**Работнікі абласнога ўпраўлення дзяржбанка М. ЛІТВІНОВІЧ, В. ПЯТРЭНКА, Э. ВОЛІК, Л. КАРАТКЕВІЧ і іншыя— усяго 24 подпісы.**

г. Віцебск.

□

**Нас вельмі ўразіў** адзін з тэлевыпускаў «Кроку», у якім згадваўся дакумент 4-га ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя СССР аб сакрэтнасці дадзеных па выніках радыеактыўнага заражэння людзей пасля чарнобыльскай аварыі. Уявіце сабе толькі: у загадзе гаворыцца пра ўвядзенне сакрэтнасці на інфармацыю аб ступені паражэння людзей, якія ўдзельнічалі ў ліквідацыі аварыі і якія цяпер жывуць у небяспечных зонах і назапашваюць у сваім арганізме смерць. І аб гэтым нельга гаварыць?! Урачам дыктуецца загад: трымаць у сакрэце ступень захворваемасці людзей, а пры звароце ў бальніцу ні ў якім разе не звязваць хваробу з Чарнобылем.

Хіба маем мы права маўчаць аб тым, калі плача і стогне наш народ, які жыве дагэтуль там, у небяспечнай зоне? Будаваліся пасёлкі, а — дзе яны будаваліся? Чаму мільёны рублёў страчаны дарэмна і незваротна згублены час? Гэта таксама вынік сакрэтнасці, некампетэнтнасці, абыякавасці тых людзей, якія нібыта «стараліся памагчы». Засакрэчвалі, гаварылі, высвятлялі ды і цяпер яшчэ высвятляюць: хто гэта напісаў першы, хто гэта сказаў? А трэба сёння ж, у першую чаргу пры жаданні самастойнага пераезду даваць кампенсацыю і свабодны білет. Трэба аб'явіць гэтыя зоны Беларусі зонамі бедства. Інакш вырашэнне гэтых пытанняў, упэўнены, расцягнецца на многія гады.

**Л. МАХНОВІЧ, І. АНДРЭЕЎ, В. ТАЛАТАЙ, С. АМЯЛЬЧУК, С. КОТАЎ. (Усяго 212 подпісаў рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў Белаазёрскага энергамеханічнага завода).**

□

**На жаль,** выбары ў нашай Лермантаўскай акрузе № 13 не далі выніку. Галасаваў жа я за Міхася Аляксандравіча Ткачова, загадчыка рэдакцыі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі.

Мне падалося, што праграме майго кандыдата была ўласціва глыбіня і маштабнасць, адчуванне вострых праблем нашага жыцця. М. Ткачоў— буйны вучоны, гісторык і публіцыст. Яго галоўная думка: «Гісторыя дала нам апошні шанц!» Калі такі чалавек з'яўляецца адным з лідэраў БНФ, то гэта робіць гонар руху.

Між тым, у ходзе барацьбы зрываліся партрэты Ткачова, у грубай форме падкрэслівалася яго прыналежнасць да нефармальнай арганізацыі. Агітатары-«баевікі» урываліся напярэдадні выбараў у кватэры, размахваючы свежавыпечанымі экземплярамі «Вячэрняга Мінска» з артыкулам «Запявалы закуліснага хору», прыпісвалі Ткачову сімпатыі да «ворага беларускага народа» — госця з Вялікабрытаніі А. Надсана.

На гэтай публікацыі «вячоркі» хацелася б спыніцца крыху падрабязней. Цяжка адмовіцца ад думкі, што гэты артыкул быў спешна арганізаваны і прымеркаваны да другога тура галасавання. Публікацыя абсалютна бяздоказная, пабудаваная на брудных інсінуацыях. Не ведаю ўзросту аўтара, але думаю, што яна не была ў ваенным горане, кепска альбо зусім не знаёма з падзеямі тых гадоў.

Аўтар артыкула выступае нібыта з пазіцый вярхоўнага суддзі, усіх граміць, звысоку паплёўвае на гістарычныя сімвалы Беларусі. Ёй ніпачым ні высокі рэлігійны сан прыбыўшага да нас А. Надсана, ні шчырая міласэрнасць нашага суайчынніка, ні яго сустрэчы з рэлігійнымі дзеячамі, вучонымі АН БССР, культурнай грамадскасцю, таварыствам клуба «Спадчына», ні малебен у Кальварыйскім касцёле...

Т. Бумажкова персанальна пералічвае ўсіх: дзе і хто прысутнічаў на розных сустрэчах, якой часткай цела і да чаго дакранаўся, якой рукой і ў які бок жагнаўся. Асабіста ж мне хацелася б прасіць аўтара артыкула знайсці хоць бы аркуш у спецархівах (калі яна мае да іх доступ) аб ахвярах масавага генацыду ў Курапатах. Такія дадзеныя проста неабходныя таварыству «Мартыралог Беларусі».

І ўсё ж хочацца спадзявацца, што людзі навучацца адрозніваць праўду ад хлусні. Трэба думаць, прыедуць да нас, і яшчэ не раз, госці з многіх краін — нашы землякі.

**В. ПАШУК.**

г. Мінск.

# «Талент поўны і разнастайны...»



**Спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння Янкі НЁМАНСКАГА, мужны і светлы талент якога быў заўчасна загублены бязлітаснай сталінскай машынай вынішчэння.**

Пісьменнік, вучоны, вядомы дзяржаўны дзеяч Іван Андрэевіч Пятровіч паходзіў з беднай сялянскай сям'і, што жыла ў вёсцы Шчорсы на Навагрудчыне (нарадзіўся 31 сакавіка (12 красавіка па н. ст.). Ужо тое, што ён сялянскі сын,— спадзеючыся толькі на ўласныя сілы, змог скончыць настаўніцкую семінарыю і паступіць у Пецярбургскі універсітэт, сведчыла пра яго вялікія здольнасці, прагу ведаў. Гэтыя веды, жыццёвы вопыт, набыты ім пазней ў гады рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, актыўнай рабоце ў Белнацкоме, ён цалкам прысвячае развіццю навукі, культуры, народнай гаспадаркі Беларусі.

Вярнуўшыся ў верасні 1922 года з Петраграда на радзіму, Мінск, Іван Андрэевіч Пятровіч адразу ўключыўся ў мірную стваральную працу. Ён быў прызначаны сакратаром Эканамічнага савета рэспублікі, намеснікам старшыні Дзяржплана БССР, абіраўся дэлегатам 8-га Усебеларускага з'езда Саветаў, быў членам ЦВК БССР 8—11 скліканняў, прымаў непасрэдны ўдзел у рабоце Інбелкульта. Пасля заснавання Беларускай Акадэміі навук абіраўся яе правадзейным членам, пазней неадменным сакратаром, членам Прэзідыума АН БССР, вучоным сакратаром Інстытута эканомікі.

1922 год наогул быў знамянальным для вучонага і пісьменніка. Першы нумар часопіса «Полымя», які пачаў выходзіць з гэтага года, адкрывала яго апавяданне «Над Кроманню». І затым ужо амаль штогод мастацкія творы Янкі Нёманскага друкаваліся ў перыядычных выданнях, выходзілі асобнымі кніжкамі, перакладаліся на рускую, украінскую, польскую мовы. Яшчэ ў 1918 годзе, у Маскве, быў выдадзены першы зборнік твораў беларускіх пісьменнікаў, дзе Я. Нёманскі змясціў артыкул, у якім пісаў: «Сучаснае наша пакаленне мае вялікую чэсць быць стваральнікам новага жыцця: наш час—час перабудовы ўсяго дзяржаўнага і культурнага укладу, які важкім каменем ляжаў на кожным працоўным чалавеку Расіі, беларуса ён прыгнятаў асабліва цяжка. З глыбокаю верою ў сваё шчасце, якога ўжо дагэтуль у нас ніхто не адніме, мы смела і проста будзем глядзець у сваю будучыню». Падставы для гэтай веры былі створаны ўсеагульным уздымам першых гадоў рэвалюцыі, якая давала людзям сапраўды вялікія спадзяванні на свабоднае і шчаслівае жыццё. Надзейны грунт для пабудовы такога жыцця Я. Нёманскі бачыў у развіцці навукі, культуры, талентаў з народа, і, зыходзячы з гэтага, акрэсліваў першачарговыя задачы: «Беларусь бедная сапраўднай інтэлігенцыяй. У Беларусі не было вышэйшых навучальных устаноў, беднасць беларуса пазбаўляла яго магчымасці вучыцца хоць бы ў расійскіх універсітэтах, а тыя, хто меў магчымасць вучыцца, былі адарваны ад народа, яго мовы, духоўнага свету і запатрабаванняў беларуса. Каб гэта адарванасць згладзілася, трэба вялікая колькасць вучэбных устаноў, куды шырока былі б адкрыты дзверы для дзяцей народа, па-другое, выкладанне ў іх вялося б на роднай беларускай мове, з увядзеннем у кола агульных навук вывучэння літаратуры, нораваў і звычаяў Беларусі, яе нацыянальных асаблівасцей, гісторыі і прыроды краіны. Са спалучэннем простай народнай душы, са святлом навук запалымнее яркая зорка шматпакутнай Беларусі». (Кĳ культурна-прасветным задачам Беларусі. Зб. «Зажынкі», Масква, 1918, с. 102).

Літаратурная спадчына Я. Нёманскага вельмі багатая. Ён шмат друкаваў артыкулаў у «Дзяннiцы», якую, дарэчы, выдаваў разам з Ц. Гартным, і дзе ўпершыню з'явіўся яго псеўданім «Я. Нёманскі». Асаблівую цікавасць выклікаюць працы, прысвечаныя эканамічнаму становішчу Беларусі, яе гісторыі, культуры («Эканамічнае становішча Беларусі», «Адзіны падатак і сялянская гаспадарка», «Аб планаванні мясцовай гаспадаркі», «Дзяржаўная прамысловасць Беларусі», «Нацыянальныя задачы Беларусі», «Інтэрнацыяналізм і нацыяналізм», «Будучыня сялянскай гаспадаркі на Беларусі» і інш.) У гэтых змястоўных артыкулах, публіцыстычных нарысах, навуковых працах вылучаюцца важныя для пісьменніка назіранні, думкі, ідэі, якія потым ён выкарыстоўваў у сваіх мастацкіх творах.

Характар грамадскай і палітычнай дзейнасці абумовіў праблематыку яго літаратурных пошукаў. У Нёманскага не было доўгага вучнёўскага перыяду—пісьменніцкай школай для яго было само жыццё. Першы зборнік апавяданняў празаіка з'явіўся ў 1925 годзе, а ў 1928 годзе быў перавыдадзены пад назвай «На зломе». На рускай мове гэты зборнік выйшаў у Ленінградзе ў 1930 годзе з уступным артыкулам С. Замбржыцкага. Аповесць «Партызан» і раман «Драпежнікі» друкаваліся на старонках часопіса «Полымя» ў 1927 — 1930 гадах.

М. Гарэцкі ў артыкуле «Творчасць Я. Нёманскага» трапна вызначыў характэрныя асаблівасці яго пісьменніцкай індывідуальнасці: «Піша Я. Нёманскі незвычайна проста і праўдзіва, не паганяючы за танным поспехам праз бульварныя эфекты, як гэта робіць, на жаль, некаторыя нашы маладыя пісьменнікі. І калі ў яго зборніку тым часам усё-такі смерць у большасці апавяданняў, дык гэта трэба тлумачыць характарам эпохі, у якую адбываецца дзеянне ў гэтых апавяданнях. Драматычныя моманты ў яго не надуманы, а выцякаюць самі з усяго ходу апавядання... Я. Нёманскі ёсць тыповы беларускі аўтар нацыянал-рэвалюцыйнага і паслякастрычніцкага перыяду—ён ахоплівае беларускае жыццё досыць разнастайна і поўна».

І сапраўды, пісьменнік бачыць і малюе перш за ўсё чалавека, а праз яго лёс выяўляе тое агульнае, чым жыве свет, эпоха. Падзеі, людзі, іх побыт, беларуская прырода—вось той жыццёвы матэрыял, да якога аўтар адносіцца надзвычай актыўна, з абвостранай зацікаўленасцю, бо гэта яго радзіма, яго народ, дзеля шчасця якога ён жыве, змагаецца. Адлюстроўваючы жыццё сваіх герояў на сумежжы старога і новага, выкрываючы негатыўнае ў іх побыце, свядомасці, пісьменнік паказваў простых людзей, надзеленых глыбокім, цвярозым розумам, спагадлівым сэрцам. Майстэрства Я. Нёманскага асабліва выявілася ў стварэнні побытавых сцэн, апісанні працы сялян, фабрычных рабочых, што было надзвычай каштоўным вопытам для развіцця новай беларускай прозы. Цудоўная прырода Беларусі выступае паўнапраўным героем яго твораў. Наогул, характэрнай адметнасцю прозы Я. Нёманскага з'яўляецца яе прывязанасць да беларускай геаграфіі. Амаль кожнае апавяданне мае канкрэтнае месца дзеяння, якое называецца дакладна (Кромань, Мінск, Лепельскае возера, Бярэзіна, Барысаў, Докшыцы, Петрыкаў, Тураўскія лясы, Віцебск, Чашнікі і г.д.). Жыццё глыбіннай Беларусі, якой Я. Нёманскі прысвячаў свае апавяданні, адкрывала перад пісьменнікам вялікае мноства тэм, характараў, праблем, сюжэтаў, якія ён рэалізаваў у аповесці «Партызан», рамане «Драпежнікі».

Калі аповесць, створаная ў неарганічнай для таленту Я. Нёманскага традыцыі маладнякоўскай прозы, з'явілася своеасаблівай данінай часу, то раман стаў адным з лепшых узораў беларускай эпікі. Аўтару ўдалося ўпершыню ў беларускай літаратуры ахапіць многія праблемы перадрэвалюцыйнага часу, паказаць у рэзкім кантрасце страшную галечу сялян, фабрычных рабочых і і неверагодную раскошу пануючага класа. Яшчэ ў 1919 годзе ў артыкуле «Рэвалюцыйная праца на Беларусі» Я. Нёманскі пісаў: «Беларускае сялянства—гэта наогул вялікі жабрак. Нідзе ў свеце няма такой беднасці, убогасці ўсяго сялянства, як на Беларусі. І побач з гэтым нідзе няма такіх вялікіх і багатых маёнткаў, як у той самай Беларусі. Вось гэта беднасць агулам усяго сялянства і падтрымлівала ў ім усягдашнюю незадаволенасць і складала атмасферу рэвалюцыйнасці, што чакала пабочнай сілы, якая б зрабіла штуршок і дала напрамак драмаўшым сілам». («Дзянніца», 1919, № 2 (46).

Храналагічна раман пачынаецца з 1907 года—часоў сталыпінскіх рэформ, занападу рэвалюцыйнага руху. Выкрываючы жыццё і дзейнасць драпежнікаў-эксплуататараў, у цэнтры якіх—два найбольш грунтоўна і шырока намаляваныя вобразы памешчыкаў Станіслава Ляскоўскага і князя Друцкага, як сімвалічна-тыповыя, Я. Нёманскі вылучыў каларытныя фігуры гандляра і спекулянта Майсея Ліўшыца, губернатара Курлава, кола яго падначаленых, розных прыслужнікаў, паліцэйскіх, дробных памешчыкаў, шляхты. Апісваючы іх узаемаадносіны, цесную пераплеценасць інтарэсаў, пісьменнік дае цікавыя падрабязнасці, сцэны асабістага жыцця арыстакратаў, падкрэсліваючы яго адмежаванасць ад народа. Побач з раскошай паўстае жыццё працоўнага люду: галеча, бяспраўе, жабрацкая аплата цяжкай працы, невыносныя пабытовыя ўмовы, смурод гарбарняў, сялянскія курныя хаты. Бесчалавечная эксплуатацыя рабочых, пралетарызацыя беззямельных сялян, раскол і хістанні ў падпольным рэвалюцыйным асяроддзі, барацьба розных партый і груп, упадак і бязвер'е перадавой інтэлігенцыі, узмацненне рэакцыі, аб'яднанне памешчыцкага і гандлярскага капіталу—вось тая жыццёвая канва твора, па якой можна прасачыць сюжэтныя лініі: прыватныя, грамадскія, палітычныя.

Другая частка гэтага цікавага твора не пабачыла свету. Надышоў 1937 год...

Цяпер, калі з'явілася магчымасць гаварыць і ведаць праўду пра сталінскія рэпрэсіі, і КДБ неахвотна, але прыадчыняе свае архівы, мне давялося пазнаёміцца з асабовай справай «ворага народа» І. А. Пятровіча. Хоць раней, напачатку 80-х, калі Інстытут літаратуры АН БССР распачаў працу па вяртанні спадчыны рэпрэсіраваных пісьменнікаў, і я пісала нарыс жыцця і творчасці Я. Нёманскага, рыхтавала збор яго мастацкіх твораў (Я. Нёманскі. Творы. Мн., «Мастацкая літаратура», 1984), то, памкнуўшыся тады ў КДБ, атрымала адказ: «Дела И. А. Петровича в наших архивах не имеется». І вось толькі ў 1990 годзе ветлівы чыноўнік вынес мне два таўшчэзныя тамы: следчая і судовая справа І. А. Пятровіча. Пасля доўгіх перагавораў, пісьмовых запатрабаванняў і просьб, у парадку выключэння мне далі ўсё ж магчымасць упэўніцца, нарэшце, што ў гэтых папках няма рукапісу другой часткі рамана «Драпежнікі». (Знайшліся ж у архівах КДБ дзённік Б. Мікуліча, «Творы з-за кратаў» Л. Калюгі!) Ці трэба гаварыць, з якім хваляваннем гартала я старонкі шматлікіх допытаў, пратаколаў, распазнаючы на кожнай з іх характэрны, прыгожы роспіс І. А. Пятровіча, мільганне прозвішчаў Чарвякова, Галадзеда, многіх іншых дзеячаў, пісьменнікаў Беларусі, «вочныя стаўкі», «стаянне на канвеерах», бязглуздыя пытанні следчых (вось іх прозвішчы: Быхоўскі, Кац, Волчэк, Кунцэвіч, Матулевіч, Кудраўцаў, Кірылаў). Абвінавачвалі І. А. Пятровіча за тое, што ён «польскі шпіён», «нацдэм», і галоўнае, што некалі быў левым эсэрам. Сам І. А. Пятровіч прызнаваў:

**«Документ о членстве в партии левых эсеров я имел только в течение месяца. Как только мне стало известно из газет о мятеже левых эсеров, я немедленно же и окончательно порвал с этой контрреволюционной партией. Но при вступлении в Коммунистическую партию я преуменьшил своё участие в лево-эсеровской организации, назвав себя сочувствующим, и этим самым совершил преступление перед КП(б)Б. Я решительно осуждаю это своё преступление, признаю, что заслуживаю сурового взыскания, но не исключения из рядов партии, так как последнее не вытекает из моей работы и жизни. Своей честной преданной работой почти в течение 3,5 лет в рядах Красной армии и затем 13 с лишним лет на видной советской работе, работе большой и напряженной, особенно в Госплане, я доказал, что заслуживаю быть членом Коммунистической партии и думаю, что искупил свою вину, свое кратковременное заблуждение—пребывание в партии левых эсеров в 1918 году».**

**(З хадайніцтва І. А. Пятровіча перад ЦК ВКП(б) аб аднаўленні ў партыі).**

У пратаколе вобыску і арышту не пазначана, што была забрана другая частка рукапісу рамана «Драпежнікі» (Изъято: переписка разная, блокнотов 11 штук, 10 книг под редакцией Петровича и т.д.), хоць з хадайніцтва жонкі І. А. Пятровіча аб рэабілітацыі мужа відаць, што другая частка рамана «У віры» была ўжо збрашуравана, але свету не пабачыла з-за арышту аўтара. Дзе яна можа быць? Усе намаганні адшукаць рукапіс пакуль што не далі ніякіх вынікаў. Само ж хадайніцтва гэтай мужнай, шматпакутнай жанчыны наогул характэрны дакумент, які гаворыць пра сталінскую эпоху, апякаючы болем і суперажываннем трагічнаму лёсу сям'і так званага «ворага народа»:

**«31 декабря 1937 года вместе с другими женами я была отправлена с этапом в Акмолинские исправительно-трудовые лагеря на 8 лет. Полностью отбыла свой срок. В декабре 1945 г. была освобождена и выслана в г. Вычугу Ивановской области. Старший сын Андрей (1922 г. рожд.) был тоже арестован в 1937 г. и отправлен в Пензу в колонию для несовершеннолетних. После совершеннолетия был отправлен в Свердловские исправительно-трудовые лагеря на 5 лет. Там умер от туберкулеза 12 февраля 1942 года. Двое младших детей—дочь Лидия (1923 г. рожд.), сын Леонид (1926 г. рожд.) находились в детском доме в с. Дарьевке Киевской области. В 1941 г. были эвакуированы в детский дом Саратова. Сын в 1943 г. из 10 класса был призван в Армию, погиб в 1945 г. Дочь окончила Станкоинструментальный институт в Москве, в 1948 г. была направлена на работу в г. Витебск, где с ней жила и я». (Дарэчы, Лідзія Іванаўна Міхайлава і цяпер жыве ў Віцебску).**

І яшчэ адна выпіска з афіцыйнага дакумента КДБ:

**«26 апреля 1937 года Петрович И. А. был арестован и Военной Коллегией Верховного суда СССР по ст. ст. 63—1, 69, 70 и 76 УК БССР необоснованно приговорен к исключительной мере наказания. Дата смерти 30 октября 1937 года в г. Минске. Реабилитирован Военной Коллегией Верховного суда СССР 16 марта 1957 года».**

Дзе невядомая магіла гэтага таленавітага сына нашага народа? Мо яго расстралялі на ўскраіне парку Чалюскінцаў, дзе і многіх іншых пісьменнікаў? Ці мо яго прыняла зямля Курапатаў?

Лідзія САВІК.

ніі, цымбалістка А. Ткачова...

**— Яна вярнулася на радзіму?**

— Не, яна проста прыедзе з Грэцыі, дзе цяпер жыве, да нас на фестываль, будзе іграць. Бліскучая артыстка заслужыла прызнанне ў нашай рэспубліцы. Мае адбыцца цікавая сустрэча.

**— І ніякіх праблем?**

— Ніякіх праблем! І добра, што няма праблем. Добра, што яна іграе ў гэтым канцэрце, які павінен падарыць сапраўды свежыя, вясновыя ўражанні. Наогул, камерныя канцэрты фестывалю вылучаюцца асаблівa разнастайнай палітрай. Звяртаю на гэта ўвагу таму, што менавіта ў камерных жанрах, найбольш суб'ектыўнай, інтымнай форме кампазітарскага выказвання, знаходзіцца больш тонкіх выразных сродкаў, чым, бывае, у вялізных сімфанічных палотнах.

**— Увогуле, камерная музыка —своеасаблівы індыкатар стану культуры музычнай, творчай, прафесійнай...**

— ...і менавіта сённяшняй! Звярніце ўвагу: сярод камерных вечароў — міжнародная трансавангардная праграма «Музыка падсвядомасці».

**— Нагадвае «авіякампанію» ці «авіяканцэрн»...**

— Гэта сапраўды нагадвае і «авіякампанію», і немаведама што яшчэ, а тым не менш я спрабаваў дакапацца да сэнсу такой назвы. Кіраўнік вакальнага ансамбля «Камерата» А. Шыкуноў, калектыву ўжо досыць вядомага, патлумачыў, прыкладна, гэтак. Міжнародная—таму што ў праграме поруч з «Камератай» удзельнічае шведскі паэт Э. Лапалайнен, які чытае паэзію абсурду, або паэзію фанем, заснаваную на гуках сённяшняга дня. Трансавангардная—таму што наш малады ансамбль «Класік-Авангард», пра які не так даўно пісаў «ЛіМ», прадстаўляе ў гэтай праграме музыку савецкага авангарду 20—30-х гадоў —Арцёмава, Дзешавова, кампазітараў, якія ніколі раней не гучалі, якія былі забаронены пры Сталіне, імёны якіх упершыню адкрыліся слухачам толькі летась на «Маскоўскай восені». А «Камерата» спявае суперсучасную праграму... Моладзь любіць даваць сваім праграмам кідкія, заваблівыя назвы. Не будзем пярэчыць, лепш сходзім, паслухаем, ацэнім рэжысёрскія прыдумкі, а тады, можа, і паспрачаемся.

У камерных праграмах—і паказ творчасці маладых беларускіх кампазітараў. Гэта і тыя, хто ўжо сёння даганяе сталае пакаленне, і тыя, хто зусім нядаўна быў студэнтам: Г. Гарэлава, В. Кузняцоў, Ю. Андрэева, Д. Яўтуховіч, М. Марозава, А. Шушкевіч... Пералік досыць доўгі. У адрозненне ад кампазітарскіх пленумаў ды з'ездаў, канцэртныя праграмы якіх даюць пераважна рэтраспектыўны паказ творчасці сталых членаў саюза, мы арыентуемся на перспектыву. А перспектыва—гэта музыка маладзейшых, якой мы даём «зялёную вуліцу».

**— На тое і вясна... І яшчэ асаблівасць фестывалю—удзел гасцей. Некаторых вы, Юрый Мікалаевіч, ужо называлі. А яшчэ?**

— Яшчэ—цудоўны квінтэт Літоўскай нацыянальнай філармоніі, які ўзначальвае дырэктар і мастацкі кіраўнік ЛНФ Г. Кевішас, піяніст, мой калега. У праграме музыка француза А. Месіяна і літоўца В. Бяруціса. Чакаем квартэт з ФРГ, які пазнаёміць з творамі сучасных заходнегерманскіх кампазітараў.

Зразумела, нягледзячы на ўдзел гасцей, нам трэба разлічваць перш за ўсё на свае выканаўчыя сілы. Так што фестываль вымагае вялікага энтузіязму выканаўцаў, асабліва калі ў праграмах пераважае сучасная ды зусім новая музыка, якую трэба разабраць, вывучыць, шліфаваць і асэнсоўваць. Мне прыемна назваць зараз імёны такіх першапраходцаў-энтузіястаў: спявак В. Скарабагатаў, габаіст Ю. Лікін, кларнетыст Г. Забара, скрыпачы Ю. і М. Гершовічы, піяністы А. Крымер, І. Шумэліна, І. Алоўнікаў. Гэта і музыканты ансамбля «Класік-Авангард», духавога квінтэта, брасквінтэта, струннага квартэта філармоніі і многія іншыя. Пераважна моладзь.

**— Дзякуй, Юрый Мікалаевіч, за размову. Няхай дапаможа яна папулярызацыі «Мінскай вясны» сярод нашых чытачоў.**

С. БЕРАСЦЕНЬ.

# РАСКУТАСЦЬ І ДАЛІКАТНАСЦЬ

**Нататкі з выставак фотамайстроў Амерыкі і Беларусі**

**«Маладыя фотамастакі Амерыкі»... Пэўна, гэтая абвестка прывабіла б шмат каго, каб з'явілася, скажам, на праспекце Машэрава ці ля Траецкага прадмесця — яны, здаецца, самім гарадскім жыццём прызначаны для знаёмства з мастацкімі падзеямі. Выстаўку ж, якая праходзіла ў танцзале «Вільнюс», на жаль, пабачыла няшмат наведвальнікаў. І хтосьці з іх, напэўна, быў расчараваны, бо ўяўленне пра краіну Амерыку па тым, што было прадстаўлена ў «Вільнюсе», ніяк не скласці. Яркія рэкламныя работы адсутнічалі цалкам. Тым не менш, выстаўка прываблівала.**

**Лірычныя краявіды Тэры Таўэдтэмеера «Лес да выбуху», «Сухі вадаспад», напрыклад, уражвалі гледача сваёй някідкасцю. Работы Рондала Макіні (серыя краявідаў) выклікалі роздум нязвычнасцю: парасткі, што нагадваюць след ад гіганцкай ракеты, старая ржавая машына, чалавечкі, выразаныя на камені, змяя на фоне хуткаснай аўтатрасы...**

**Атамная электрастанцыя, знятая Маркам Клетам, — само ўвасабленне парадку, спраўнасці і дагледжанасці — дрэўцы, воблака пары. Аднак у прасторы прыхавана ці то папярэджанне, ці то неспакой— каму-каму, а нам не трэба тлумачыць, які менавіта.**

**Серыя замалёвак з натуры Джыма Ламасона ўяўляе сабою каляровыя, хіба не цацачныя ўвасабленні наваколля: старасвецкае аўто на фоне гладкай сцяны, крама садавіны з рэкламнымі кардоннымі бананамі, някідкі дамок з гафрыраванага жалеза — «Аўтасервіс Біла»...**

**Мяне асабіста ўразілі фотапартрэты Роя Колфа (сталага веку пара, бізнесмен, дзяўчо з маці). Гэтак зняць, магчыма, мог бы і савецкі майстар у Маскве ці Гродне: своеасабліва эстэтызаваная рэальнасць няпростага нашага жыцця. Жыццё, нібы заўважае мастак, увогуле няпростая справа.**

**Выстаўка амерыканцаў запомнілася сваёю чалавечнасцю, адметнасцю аўтарскіх асоб, свабодаю асацыяцый, раскутасцю зносін з гледачом і разам з тым — далікатнасцю. Той далікатнасцю, што мяжуе са стрыманасцю. І, паўтаруся, сваёю «нерэкламнасцю» амерыканскага ладу жыцця разам з ненавязлівым позіркам на гэты лад.**

**Тое ж можна сказаць і пра выстаўку мінскага фотамастака Анатоля Дудкіна. Свядома не стану пералічваць ягоныя дасягненні, поспехі і ўзнагароды — яны бясспрэчныя. І няхай нікога не падмануць гады, у якія ён заявіў аб сабе. Сваё стаўленне да іх ён з далікатнаю ўсмешкаю выказаў у рабоце «Зорны кароль» у партрэце сумнавядомага «абзорнага» генсека, які прышпілены да старых пашчапаных дзвярэй гаража якраз пад надпісам па-англійску «Зорны кароль»...**

**Але гэта між іншым. Настрой, тон выстаўкі задаюць і падтрымліваюць краявіды, выявы, так бы мовіць, станаў роднае прыроды: серыі «Балота», «Рака Нача», «Рака Бобр», «Мядзельскі край». Дакладнасць, прастакі японская вытанчанасць краявіду «Люты», напрыклад, паяднана з тыпова беларускай няпэўнасцю: прыроды, калі не ведаеш, што сыплецца з неба, дождж, снег ці проста імжыць; настрою, калі радасць даводзіцца да слёз, а гора і скруха схіляюць да дзеяннясць.**

**Серыя «Зямля і людзі», распачатая майстрам у 1975 годзе, — гэта шэраг канкрэтных людскіх абліччаў, якія не прэтэндуюць на абавязковае пераўтварэнне ў вобразы. Людзі, якіх здымаў Дудкін, не пазіруюць, але і не хаваюцца ад вока фотаапарата. Чалавечы гумар на здымках супадае з настроем прыроды: людзі гэтыя блізкія да зямлі, здаецца, ціхамірныя, сціплыя, значныя ўжо адным сваім прызначэннем карміцеляў, унутрана спакойныя, крыху запаволеныя. Ды нейкую таемную прысутнасць лёсу-выраку ўгледзела я на гэтых здымках. Серыя скончана ў 1988 годзе, і можна зрабіць асцярожную здагадку: ці не прадчуванне бяды (атамнай, нітратнай, меліярацыйнай і нават сацыяльнай) кінула на гэтыя твары і постаці адбітак нетутэйшага, незямнога святла?..**



А. ДУДКІН. Партрэт.

**Асаблівай гаворкі заслугоўваюць дудкінскія «ню», пазначаныя назваю «Акты». Аголеным жанчынам, здалося мне спачатку, неабавязкова прысутнічаць на гэтай выстаўцы (а прысутнічаюць яны, паверце, не з-за кан'юнктурных меркаванняў): навучыўшыся маляваць аголеную натуру дзеля вывучэння чалавечага цела, зусім неабавязкова штораз назаляць гэтым уменнем акалючых. Але ў Дудкіна нічога выпадковага на выстаўцы няма. Я не ўгледзела ў выявах аголеных пачцівага ні какетлівай рэкламнай «сарамлівасці», ні так званага «эратычнага заклiку» (які, дарэчы, пераходзіў у віскат на выявах нядаўняе выстаўкі «Міс фота СССР»). Жанчыны Дудкіна суіснуюць з прыродаю альбо складаюць яе гарманічную частку.**

**Выстаўка «Маладыя фотамастакі Амерыкі» паехала з танцзалы «Вільнюс» у горад Вільнюс, выстаўка ж Анатоля Дудкіна яшчэ некаторы час будзе сустракаць гледачоў. Застаецца дадаць, што ладзіў іх утвораны нядаўна Саюз фотамастакоў Беларусі і творчая асацыяцыя «Правінцыя». Здымкі яе членаў (У. Парфянка, Л. Ільіна, Г. Слабодскага і іншых) бываюць і на старонках «ЛіМа».**

**Антаніна ЗАБЛОЦКАЯ.**

фічнага, а жывога сталінца, хто доўга правіў баль і цяпер «на варце святынь».

Карацей, гаспадар чорных дэрмацінавых дзвярэй зноў запатрабаваў дакумент і, калі я падаў яго ў шчыліну, узяў, доўга разглядаў, а пасля прабубніў сам сабе:

— «Орган ЦК КПБ».

Адкінуў зашчапку, упусціў.

Дагэтуль я чакаў: перада мной будзе ці бамбіза з бандыцкім выразам твару, ці, наадварот, ліслівы шпанючок. Зірнеш у вочы такому, а там сядзіць хтосьці іншы — хітры, жорсткі, бязлітасны. Я не раз ужо налятаў як на першых, так і на другіх, і трэба сказаць: другія, малыя ростам, кусалі больш, як трутні.

Не. Гаспадар быў трохі вышэйшы за мяне, чалавека сярэдняга росту, хударлявы і, як кажуць, не зусім выразны. На ім не было арыстакратычнай белізны, выпешчанасці, што звычайна бывае ў ягоных калег — дзяцей высокапастаўленых бацькоў, але не бачылася і яўных прыродных сялянскіх рыс, што кладуць след на твар ад ветру, сонца, марозаў і цяжкай працы. Як я сабе ўявіў: чалавек, абгладжаны горадам. Што да характару, то на першы позірк здалося мне: супярэчлівы.

На Сычу былі скураныя тапачкі, насок правага быў падрапаны (па сабе ведаю: гэтым тапачкам падымаў ніжнюю зашчапку на балконных дзвярах), паношанае, бліскучае на локцях, але шыкоўнае спартыўнае трыко з белымі лампасамі на штанах, на шчоках — роўны чырванец, на галаве — сівы вожык, а ў шэрых, ужо выцвілых вачах — чэпкі, калючы позірк. Чыгір перад ім, равеснік, на выгляд нашмат старэйшы і слабейшы.

— Праходзьце, — міралюбна сказаў гаспадар і неўзабаве першы стройна па-вайсковаму пайшоў па доўгім цемнаватым калідоры з высознай столлю, са старамоднай лепкай калідора, і павярнуў направа — у прасторны пакой, дзе каля балконных агромністых дзвярэй стаяў каляровы тэлевізар, злева высіліся кніжныя шафы з аднымі зборамі твораў, з партрэтамі вядомых вучоных, рускіх пісьменнікаў. На адной з паліц кінуўся ў вочы партрэт Сталіна — той быў у вайсковым мундзіры і з зоркай, нібы зычліва ўсміхаўся, хоць туманна і пагрозна прыплюшчваў тыгрыныя вочы. Справа стаялі пісьмовы стол, завалены педагагічнымі часопісамі, газетамі, і канапа.

— Я слухаю вас,—быццам не дома, а ў важным кабінеце сказаў Сыч, сеў на крэсла пры стале, а мне паказаў месца насупраць, на канапе, над якой вісеў шыкоўны дыван. Яшчэ болей дарагі дыван ляжаў на паркетнай падлозе.

— Я прыйшоў да вас як да чалавека, які нямала пражыў на свеце і шмат чаго пабачыў... — сказаў я, адчуваючы, што святло з балкона не толькі асвятляе, але б'е мне ў вочы, а вось гаспадароў твар у цяні. — Што вы, да слова, думаеце пра цяперашнія перамены?

— Спачатку ў мяне да вас два пытанні, малады чалавек. Першае: вы нейкім чынам ведаеце, дзе і кім я працаваў? Другое: вы прыйшлі сюды самі ці па заданні газеты?

Я адказаў тое, што ведаў.

— Там, —сказаў ён зусім сур'ёзна, хітнуў галавой, — пад пінжаком, маеш мікрафон?

— Не, — прамовіў я і паказаў, што пад штрыфлямі, поламі пінжака.

— Дык што ты хочаш пачуць ад мяне, ветэрана? — рэзка напаў ён, свідруючы цяжкім позіркам. — Пра змены-перамены? Пра якія? Пра тое, што найперш вы, пісакі, разышліся, бурыце ўсё, што мы мацавалі дзесяцігоддзямі? — Узяў са стала «Огонёк», склаў яго і патрос перада мной. — Усё аплявалі: Сталіна, партыю, сацыялізм... А тое, што напісана пра правасуддзе, органы, увогуле ні ў якія вароты не лезе...

Зларадна ўхмыльнуўся:

— Што здзіўлены? Дыфірамбаў ад мяне чакаў? Не, дарагі. Не пачуеш іх ад нас, для каго на першым месцы партыя, Радзіма і... Сталін, які зусім не такі, як вы малюеце, а наш выратавальнік... А цяпер наце: ні мыла, ні шыла, адна балбатня ды разброд, нахабнасць нефармалаў, народнага фронту і здранцвенне ўлады... Вы яшчэ пашкадуеце, ох, як яшчэ пашкадуеце, што так замахнуліся на наша мінулае!..

— Ясна, — сказаў я, не хочучы спрачацца.— Я ўласна, Арцём Аляксандравіч, прыйшоў да вас не дыскутаваць пра былыя святыні ці грахі, пра змены-перамены, як вы кажаце. Я вось пра што. Цяпер, як самі бачыце, аднаўляюць добрае імя многіх зганьбаваных у свой час людзей. Як асабіста вы, Арцём Аляксандравіч, цяпер гледзіцё на лёс вядомага вам Чыгіра? Можа, хопіць ужо цягаць яму цяжкі крыж? Можа, ён выпакутаваў права памерці звычайным нашым чалавекам, а не ліхадзеем?

Сыча нібы ўджалілі — ён уздрыгнуў, наліўся крывёю, адвёў вочы і пастукаў кантамі часопіса па стале.

— Вы адкуль яго ведаеце? — запытаў.

— Як сусед па доме.

У гэты час зазваніў званок, і Сыч, здаецца, радуючыся, што можа адысціся, падаўся да дзвярэй. На гэты раз нібы трошкі згорбіўшыся. Па гомане я зразумеў: зайшлі дзіця і жанчына. Неўзабаве яны былі ўжо тут: поўненькі, нават пухнаты хлапчук гадоў сямі ў школьнай форме і маладая высакаватая прыгожая маладзіца ў чорных модных калготах, шэрай спадніцы і чорным світэры, трымаючы ў руцэ вучнёўскі партфель. За імі ўвайшоў Сыч, патлумачыў дачцэ ці нявестцы:

— Карэспандэнт.

— Хадзем, Толік, у залу, — сказаўшы мне калі не халоднае, то стрыманае «здравствуйте», жанчына абцягнула на сабе світарок, які напінаўся на высокіх грудзях, папраўіла чорную шапачку і павяла сына з пакоя.

— Я папрашу: пры дачцэ, а то і ўвогуле прозвішча Чыгіра не называйце... — як нейкую ўмову паставіў мне Сыч і зноў сеў на крэсла. — Прызнайцеся: гэта ён вывеў вас на мяне? — запытаў, зноў узвысіўшы мяне на «вы».

— Ён не назваў нават вашага прозвішча, вас я вылічыў сам...

— Што вы хочаце ад мяне?

— Памажыце рэабілітаваць яго, Арцём Аляксандравіч...

— Вы лічыце: усе, хто т а д ы сядзеў, толькі анёлы?

— Я не гавару пра ўсіх.

— Крымінальнага злачынства за ім няма. Але я не ведаю, як яго рэабілітаваць палітычна. Ён — нацыяналіст!

— Ёсць доказы?

— Ёсць.

— Якія? Даносы? Паклёпы? Урэшце, ён прапаведуе нашу выключнасць, сее варожасць да іншых нацый?

— Ну, цяпер гавораць, адкрыта пішуць больш, чым ён некалі, — памякчэў Сыч. — Але... Цяпер нібы можна, а тады...

— Дык давайце вернем справядлівасць, змыем з нармальнага чалавека паганае кляймо!

— Вы лічыце: гэта ўсё так проста?

— Не, не лічу. Але хто-хто, а вы можаце зрабіць для яго больш, чым хто. І добрага, і ліхога, — загарачыўся я. — А зрабіць добрае трэба нават дзеля апраўдання перад Чыгірам, які мог бы быць вядомым вучоным, шчаслівым чалавекам. Чыгір...

Сыч прыклаў палец да вуснаў: ціха! У калідо-

(Заканчэнне на стар. 12).

**Мар'ян ДУКСА**



## З новай кнігі

### Нашы дзесяцігоддзі

Дзесятыя — нібы ганцы расплаты...
Падкопы, звяганні і войны.
Фінал прароцтва: «Брат на брата...»
Маркотны гул айчыннай бойні.

Дваццатыя — галаднаватыя,
калі цвіло надзеяй гора.
Пад гоман рыначны аратаю
пятлю падсоўвалі пад горла.

Ах вы, сібірскія трыццатыя —
сталіцы, вёскі і мястэчкі.
Замёрлі ў страху, як зацятыя...
Вам хочацца паставіць свечкі!

«Саракавыя ракавыя»,
раструшчванне фашысцкай клеткі,
пароўну — мёртвыя, жывыя...
Прыміце сённяшнія кветкі!

Пяцідзесятыя — наш ранак
вясны — няхай з жытамі нізкімі.
Уздым. Агонія тырана.
Усмешкі першыя калымскія.

Няроўнасці шасцідзесятых,
раскрадванні сямідзесятых,
дзе дрэмлюць на пярыне штаты
ў чаканні кругленькай зарплаты.

Васьмідзесятыя — не босыя,
але па-людску не абутыя.
Крыклівыя, мнагагалосыя —
нарэшце, вольныя, раскутыя!

Як хочацца пажыць у радасці,
у цеплыні, святой лагодзе.
Без шуму, плачу і без крайнасцей
прыйдзіце вы, дзесяцігоддзі!

І будзьце лепш мануфактурнымі,
чым толькі одамі хвалебнымі.
Не столькі маршамі бравурнымі —
вы станьце шчырымі і хлебнымі.

●

О як ты дзіўна любіш!
Паклон адбіўшы злу,
сваіх герояў губіш,
пасля — пяеш хвалу.
Зямля мая, ну штосьці
бяда ў цябе адна:
ўсё пачынаць са злосці,
з крутога бізуна.
Душу найперш каб выняць,
замоўкнуць загадаць —
язык спачатку вырваць,
а потым слова даць.
Але спачатку — пстрычкі,
пасля ўжо — доўг бяры.
Чаму такая звычка,
з якой яна пары?
Жыццё бязбожна секла
сыноў, хто славіў край...
Чаму заўжды праз пекла
яны ідуць у рай?

●

Мы перад імі — на калені:
яны ж — святыя на зямлі...
А што было б, каб Маркс і Ленін
ажно дагэтуль дажылі?
Мы знаць не можам, безумоўна.
Ды Маркс — наш слынны капітан, —
не сумняваюся, грунтоўна б
перарабіў свой «Капітал».
Не будаваў бы Ленін, пэўна,
казарменны сацыялізм.
Тым больш упэўнены, што гнеўна б
не адпяваў капіталізм.
Яны чарговай кнігай білі б
па іншай цэлі мо якраз.
Яны б карэкцыю рабілі,
як штурманы, дзесяткі раз.
На той дарозе невядомай,
дзе праўда скача, як алень...
І прачыналіся б не з догмай,
а з новай думкаю штодзень.
Засвоіць цяжкія урокі
мы мусім сэрцам і слязой,
што нават моцныя прарокі
не знаюць будучыні ўсёй.

●

След вінаватых прастыў.
Ёсць указальнік падманны.
Вось ён, злачынца, — стыль
бюракратычна-камандны.
Вострыя шышкі — яму.
Ён і з'яўляецца варвар.
Ён збудаваў Калыму.
Ён наша шчасце развальваў.
Гнеў свой жывы пагасі
і супакойся на хвілю.
Толькі з яго, як з гусі...
з гэтага вашага стылю.
Хтось ад народа свайго
ім свой парог адгароджваў.
Нехта ж усё-ткі яго
і запрагаў, і абходжваў.
Нехта і зараз яшчэ
коніка тога старога
гоніць і пугай сячэ,
хоць не спрыяе дарога.

### Завіруха 40-га года

Калі б не ты, сляпая завіруха
былой зімы саракавога года,
загінулі б усе мы, нібы мухі,
ператварыўшыся ў кавалкі лёду.
Не выжыў бы ніхто з маёй сямейкі —
ні бацька з маці, ні браты з сястрою.
Нямыя душы выпалі б на рэйкі,
абнятыя сібірскаю зарою.
Напэўна, лёсу страшная пагоня
дагнала б нас. І прастагнаўшы глуха,
заціхлі б мы ў прастуджаным вагоне,
калі б не ты, сляпая завіруха.
Калі б не ты, як сіла дапамогі,
што прашумела над маркотнай хатай
і заваліла гурбамі дарогі
у зборны дзень да станцыі праклятай.
На гэты раз, відаць, пашанцавала,
быў люты дзень да нас надзвычай шчыры.
Пра нас на час, — хоць верылася мала —
забыліся раённыя вампіры.
А покуль іншых слалі ці стралялі
у Курапатах пад сваёй зарою,
пакуль чарговы выклік афармлялі —
вайна загрукатала за гарою.
Калі б не ты... і сэрца пройме скруха.
Калі б не ты — не зведаў свет бы мілы...
Ты загадзя, сляпая завіруха,
маё з'яўленне ўсё ж благаславіла.

●

Над страшным шматгалоссем
салютаў і журбы, —
вы чуеце? — пранёсся
адбойны кліч трубы.
Ён радасны — не грозны.
І чуецца здалёк.
Шкада, што вельмі позні —
вось-вось наступіць змрок.
Спявае кліч адбою.
Узрадуйцеся вы,
хто ўсё ж на полі бою
і цэлы, і жывы.
Вам доля з тварам феі
змагла жыццё сыграць.
Усе свае трафеі
з сабой не трэба браць.
Хоць боль дагоніць востры,
прыцісне, як гарой, —
хай не заве да помсты
ніводзін ваш герой.
Аб чым там злосць варожыць,
прыўзняўшы меч стары?
Няма сцягоў варожых —
ёсць толькі сцяг зары!
За дзень да вечных святаў,
гудзі, трубы набат.
Не танкавых парадаў —
жыві, шароў парад!



## Мартыралог Беларусі: імёны і факты

# ЗАПОЗНЕНЫ ПРЫСУД

У дзяцінстве, слухаючы бацькавы аповяды, усё намерваўся іх занатаваць. Выйшла так, што збіраць звесткі і пісаць пачаў пасля ягонай смерці. Шукаў ягоных знаёмцаў, распытваў крэўнікаў, звяртаўся ў архівы...

На пачатку вайны майму бацьку, Уладзіміру Паўлаву, было 16 гадоў. У 1942 годзе ён пайшоў у партызаны, ваяваў у Першым атрадзе 3-й Беларускай брыгады. Летам 1943 года на захад Беларусі рушыла група партызанаў на чале з Васілём Саўчанкам. Ягоным ардынарцам быў мой бацька. Праз паўгода група перарасце ў атрад «Баграціён» і ўвойдзе ў склад брыгады імя Варашылава Вілейскай вобласці. У снежні 1943 года пад час адной з сутычак з праціўнікам на Ашмяншчыне бацька трапіў у палон. Ад смерці на месцы выратавала вайсковая уніформа (палічылі за дэсантніка). Нейкі час бацька знаходзіўся ў турме ў Вільні, потым у лагеры «Правінішкі». У сакавіку 1944 года быў вывезены ў Францыю, дзе ўтрымліваўся ў лагерах для ваеннапалонных «Аш» пад Шэрбургам, з красавіка — у лагеры «Ібервіль». У чэрвені ўцёк з лагера, але быў злоўлены і пасаджаны ў турму горада Рэн, цэнтра дэпартамента Іль-э-Вілен правінцыі Брэтань. З турмы быў пераведзены ў лагер «Бідэй», адкуль на прыканцы ліпеня 1944 года ўсё ж такі ўцёк і натрапіў на байцоў французскага Супраціўлення. Са жніўня 1944 па лістапад Паўлаў (у адной з даведак запісана — Якоб) знаходзіўся ў іншаземнай секцыі 3-га батальёна Ф. Ф. І. дэпартамента Іль-э-Вілен (батальён Андрэ Леклёрка). Пад назвай Ф. Ф. І. (Французскія Унутраныя Сілы), ужо з пачатку 1944 года Нацыянальнай Радай Супраціўлення былі аб'яднаны ўсе ўзброеныя атрады розных груп Супраціўлення. У жніўні 1944 года пасля прарыву фронту нямецкіх войскаў пачалося агульнанацыянальнае паўстанне, так што бацька паспеў, безумоўна, узяць удзел у баявых аперацыях у Брэтані.

Сумесныя дзеянні англа-амерыканскіх войск і сіл Супраціўлення ў Брэтані далі бліскучыя вынікі: атрады Супраціўлення ва ўзаемадзеянні з саюзнікамі вызвалілі амаль усю Брэтань. Уласнымі сіламі байцы Супраціўлення вызвалілі звыш 20 гарадоў Брэтані, у тым ліку Кампер, Канкарно, Ванв. Яны ачысцілі ад рэшткаў нямецкіх войск Брэтань, ізалявалі фашысцкія гарнізоны. Як сведчыць французская даведка, падпісаная камандзірам узвода лейтэнантам Бурзеем, свой пісталет-кулямёт № 4213 баец Паўлаў здаў 13 лістапада 1944 года.

Па сканчэнні баявых дзеянняў у амерыканскай зоне Францыі, у лагерах для рэпатрыянтаў «Катнедан», «Басо», «Барэгар» бацьку, відаць, неаднойчы схілялі застацца на Захадзе. Толькі цяга да родных мясцінаў, да сваёй радзімы, да зямлі аказалася непераадольнай. Праўда, ступіць на родную зямельку і пабачыць сваіх крэўных давялося толькі праз доўгіх сем гадоў.

Сталася так, што пасля праверак у фільтрацыйным пункце НКУС пад Драгобычам бацька быў адпраўлены на Беламорбуд. Добра памятаю горкую бацькаву заўвагу — нашы правяральшчыкі былі значна больш пільныя і жорсткія, чым немцы. Наканавана было бацьку пасля пакут нямецкіх лагераў зведаць і савецкія.

У даведцы 1946 года, дасланай на імя бацькавай маці, а маёй бабулі Лукер'і Сямёнаўны, пракурор Беламорбуда і намеснік начальніка ўпраўлення тлумачыць, што «Паўлаў Уладзімір Максімавіч не можа быць вызвалены ад працы на Беламорбудзе, бо з'яўляецца асобай прызыўнога ўзросту. Ягоны год не дэмабілізуецца з Чырвонай Арміі, таму ён працуе на правах вольнанаёмнага, да асобага распараджэння». Але вольнанаёмнасць гэтая была кароткай. За нястачу куля з рысам, які нейкі прайдзісвет украў з экспедзіраванай бацькам машыны, ён быў спецлагерным судом Беламорбуда асуджаны па артыкуле 162 п. Д Крымінальнага кодэксу РСФСР на пяць гадоў пазбаўлення волі. (Згодна адказу з Вярхоўнага Суда Карэльскай АССР судовая справа знішчана). Перад судом была магчымасць сплаціць нястачу грашыма, але дзе ж было ўзяць тыя грошы, калі сям'я пасылала яму ў якасці харчовай падмогі бульбяное шалупінне?

У лагеры бацька захварэў на сухоты. Свой тэрмін ён дацягваў ужо ў Рэспубліканскай бальніцы Упраўлення выпраўленча-працоўных лагераў і калоній Карэльскай АССР. Дыягназ гучаў як смяротны прысуд: фіброзна-кавярнозны туберкулёз лёгкіх.

У роднае Селішча на Гарадоччыну былы беларускі партызан і баец французскага Супраціўлення вярнуўся толькі ў 1951 годзе. Праглядаю пакінуты ім невялічкі архіў. Дзве даведкі Ф. Ф. І., некалькі пасляваенных фотаздымкаў. Асноўную частку займае перапіска з органамі сацзабеспячэння аб прызначэнні пенсіі. Працаваць бацьку хутка не стала змогі, а патрэбнага на пенсію стажа не хапала. Да таго ж, доўга не мог пацвердзіць сваё знаходжанне ў партызанах — некаторыя былыя народныя мсціўцы адмаўлялі ў сведкаванні нядаўняму зэку. Праўда, знайшліся сумленныя людзі. Пасля доўгай цяганіны бацька ўсё ж дамогся пенсіі інваліда Вялікай Айчыннай вайны.

Памёр бацька 24 лістапада 1976 года. Ён не дужа любіў распавядаць пра свае ваенныя пуцявіны, больш наракаў: за што такая нешчаслівая доля? Але менавіта ад яго мы з братам даведаліся пра знішчэнне беларускай інтэлігенцыі, пра лісты беларусаў да Сталіна, пра лёс бліскучых военачальнікаў грамадзянскай вайны. Ад яго ж нашчадзілі захапленне чытаннем. У шэсць год мой брат на памяць цытаваў усяго «Тараса на Парнасе».

Нічога адметнага бацька быццам і не зрабіў у выхаванні, але здолеў надаць сваім сынам пэўны духоўны патэнцыял. Дай жа божа, каб і ў майго сына з дачкой засталіся не толькі падобныя на мае вочы і рысы твару, але і ўсё тое, што хвалюе і непакоіць мяне.

**Міхась ПАУЛАУ.**

# «Нас сабраў Скарына»

30 сакавіка ў Доме літаратара мастак Аляксей Марачкін прадставіў грамадзе сваю новую карціну — трыпціх «Скарына і Парацэльс. Дыялог аб вечнасці». Гэты твор жывапісец прысвяціў 500-годдзю вялікага палачаніна. Палатно ў метафарычнай форме адлюстроўвае малавядомы эпізод з жыцця Францыска Скарыны — дыспут у Вільні са швейцарскім урачом Парацэльсам. Гісторыя захавала толькі факт сустрэчы двух геніяў Адраджэння. Канкрэтны змест іх навуковай дыскусіі, аргументы, якімі абменьваліся ў ёй Скарына і Парацэльс, нам невядомыя. Адно відавочна: гэта быў дыялог аб ісціне, вечнасці, фундаментальных каштоўнасцях чалавецтва.

Сваю Скарыніяну А. Марачкін распачаў больш як дзесяць гадоў назад палатном «Скарына. Пачатак». Так, Скарына — пачатак беларускай нацыі. Ягоная асоба нібыта ўвабрала ў сябе святло беларускай зямлі, духоўную моц папярэднікаў — гарачы патрыятызм Рагнеды і Усяслава, мудрасць Кірылы Тураўскага, мужнасць Вітаўта, каб потым асвяціць шляхі Касцюшкі, Каліноўскага, Купалы.

«Нас сабраў Скарына, — сказаў, звяртаючыся да гасцей вечарыны, А. Марачкін. — Яго імя аб'ядноўвае нас ужо амаль 500 гадоў, і будзе аб'ядноўваць вечна». Мастак расказаў пра свой новы твор, пра шляхі, якімі ён ішоў да разумення Скарыны і ягонай эпохі.

Аб творчасці мастака і яго новым творы гаварылі гісторык В. Грыцкевіч, паэт А. Разанаў, мастацтвазнаўца М. Раманюк. На вечарыне гучалі беларускія песні і вершы нашых паэтаў ад часоў «Песні пра зубра» па сённяшні дзень. Харысты капэлы Акадэміі навук БССР выканалі творы беларускай і заходнееўрапейскай класікі. Самадзейныя артысты прадставілі гасцям вечарыны народныя абрады каляндарнага цыкла.

Аўтары і ўдзельнікі літаратурна-мастацкай кампазіцыі мелі за мэту не толькі аповяд пра нашу адвечную спадчыну, але паказ сённяшняга стану беларускай культуры.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**

*Старонкі ўспамінаў*

# МОЙ НАСТАЎНІК

Я ведаў акадэміка Гаўрылу Іванавіча Гарэцкага амаль на працягу чвэрці стагоддзя. Наша знаёмства адбылося ў 1965 годзе, калі я прывёз Гаўрылу Іванавічу на водгук сваю кандыдацкую дысертацыю. Я ведаў больш яго як аўтара выдатных прац, многія з якіх непасрэдна тычыліся маёй тэмы, вядома, вывучаў я іх вельмі старанна.

Будучага свайго апанента я наведаў на кватэры. Аказалася ж яна не ў Маскве, а амаль за 100 кіламетраў ад сталіцы ў г. Дзедаўску. Цяпер я ведаю, што нават пасля рэабілітацыі жыць у Маскве Гаўрылу Іванавічу не дазвалялася, каб трапіць на працу, яму трэба было ехаць амаль тры гадзіны электрычкай. Сціплая кватэра ў драўляным доме з выгодамі «ў двары» — такія ўмовы жыцця былі створаны аднаму з першых *акадэмікаў Беларусі* (падкрэслю: было гэта ў 1965 годзе).

Не буду апісваць прадмет нашай гаворкі. І сёння я ўспамінаю вочы гэтага чалавека, якія глядзелі на мяне добразычліва і ў той жа час пыталі: «Што ты за чалавеча? З якой нагоды ты прыйшоў да мяне? Што табою кіруе? Жаданне далучыцца да навукі ці штосьці зусім іншае?» Усе, хто хоць нядоўга працаваў з Гаўрылам Іванавічам, адзначаюць яго добразычлівасць, павагу да людзей. Але гэта не былі адносіны мэтра ці мецэната да малодшага, гэта была павага да чалавека, кім бы ён ні быў. Гэтую павагу можна было і страціць, калі меліся да таго падставы. Мне ўсяго некалькі разоў давялося бачыць Гаўрылу Іванавіча жорсткім. Але гэта была жорсткасць да тых людзей, якія паказвалі сваімі паводзінамі, сваёй працай здраду навуцы, жаданне жыць лёгка, працаваць абы-як, але атрымоўваць тое, што прызначана шчырліўцам...

Шырокая абалонь Бярэзіны. Паміж векавых дубоў стаяць нашы палаткі. У аднолькавых умовах жывуць усе — і лабаранты, і акадэмік. Цяпер шмат гавораць аб прывілеях. Гаўрыла Іванавіч меў адну прывілею — працаваць больш за іншых, кіраваць працай, бачыць усё і ўсіх. Праца ў полі — гэта не проста адпачынак на прыродзе. Калі-нікалі трэба ўзяць у рукі і рыдлёўку, скрынкі з узорамі парод са свідравін — кернам. Часта мы гаварылі чалавеку, якому ўжо было далёка за 60 гадоў: адпачніце, мы самі гэта зробім, але заўжды чулі ў адказ: «Не, я такі ж удзельнік экспедыцыі, як і вы ўсе!»

У Гаўрылы Іванавіча былі два, як цяпер кажуць, хобі — збіраць баравікі і сядзець ўвечары каля вогнішча. Калісьці я чытаў пісьмы Якуба Коласа, які скардзіўся, што стала мала баравікоў. У яго сябра, Гаўрылы Іванавіча, была адмысловая кніжачка, дзе ён натаваў вынікі сваіх баравіковых здабыткаў. У час адпачынку ён часам даставаў яе і прылюдна рабіў выснову: і сапраўды, баравікоў становіцца ўсё менш і менш. Каля вогнішча Гаўрыла Іванавіч часцей за ўсё быў маўклівы і нерухомы. Мне ўсё здавалася, што менавіта ў гэты час ён вырашае самыя складаныя навуковыя пытанні. Аднойчы я запытаўся ў яго, пра што ён думае. Гаўрыла Іванавіч доўга глядзеў на мяне, нібы не разумеючы майго пытання, а пасля сказаў: «Вы ведаеце, сёння я чуў па радыё нейкую мелодыю, дык вось яе і спяваю!»

Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі не раз падкрэсліваў, што Беларусь з'яўляецца класічнай вобласцю старажытных зледзяненняў. Яскравымі прыкметамі, сведкамі гэтых часоў служаць *ледавіковыя валуны*, велізарныя глыбы крышталёвых парод, прынесеных з Карэліі, з раёнаў Скандынавіі. Вядома, што гэтыя каменныя сведкі знікаюць, выбухамі многія з іх ужо перамолаты ў друз, выкарыстаны ў будаўніцтве.

Ідэя Гаўрылы Іванавіча аб захаванні валуноў была адначасова і сціплая і грандыёзная: стварыць на плошчы ў 10 гектараў штучную рэльефную карту Беларусі і звезці з розных куткоў Беларусі валуны, паклаўшы іх на штучныя ўзвышшы і раўніны. Калі вы будзеце ехаць у новы Акадэмгарадок, то каля будынка Інстытута геахіміі і геафізікі вы ўбачыце гэты музей. Ён яшчэ ўладкоўваецца, адбудоўваецца, але галоўнае зроблена, больш чым тысяча найбольш тыповых і цікавых валуноў занялі сваё месца на штучнай рэльефнай карце Беларусі.

Дык кім жа быў акадэмік Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі? Вучоным-геолагам, краязнаўцам, эканамістам, філолагам, арганізатарам навукі?

Па-першае, гаворачы словамі вядомага барда Сержука Сокалава-Воюша, ён быў «нефармальны беларус». Я нарадзіўся і вырас у Беларусі, але толькі ад Гаўрылы Іванавіча чуў сапраўдную, літаратурную беларускую мову, якая была яму роднай. Яна гучала і ў лабараторыі, і ў полі, і на пасяджэннях, дзе прысутнічалі калегі. Мы цяпер маем Закон аб мове. Але чаму ад кіраўніцтва нашай рэспублікі, што выступала па тэлебачанні 25 лютага, мы не пачулі ніводнага роднага слова? Не ведаюць? А, можа, грэбуюць? Па-другое, гэта быў чалавек культурны і інтэлігентны, яго культура была ў сціпласці — сціпласці ў адзенні, ежы, паводзінах, адносінах да людзей. Гэтай вонкавай культуры адпавядала глыбокая ўнутраная культура, асновай якой былі шырокія і ўсебаковыя веды, талент і інтэлект.

Па-трэцяе, гэта быў спецыяліст, прафесіянал, вучоны і практык, імя якога вядома спецыялістам гэтай галіны ва ўсім свеце. Па-чацвёртае, гэта быў працаўнік, зробленае ім за кароткі час, пачынаючы з 1964 года, цяжка пераацаніць: пяць манаграфій памерам больш чым 230 друкаваных аркушаў, амаль 5000 старонак машынапіснага тэксту, не кажучы ўжо пра шматлікія артыкулы, справаздачы...

Сярод навуковых твораў Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага *амаль няма напісаных* у сааўтарстве, чым яго бібліяграфія рэзка адрозніваецца ад спісаў друкаваных прац многіх яго знакамітых калег. Чаму так? Мне здаецца, таму, што ён перш-наперш хацеў быць асабіста адказным за сваё друкаванае слова, за сваю ідэю, вынікі пошуку.

У красавіку ў *Маскве* і ў *Мінску пройдуць чытанні*, прысвечаныя Г. І. Гарэцкаму, выйдуць прысвечаныя яму зборнікі навуковых прац і ўспамінаў.

Але ж павінна быць зроблена нешта большае, зроблена і ўрадам і АН БССР, каб ушанаваць памяць аднаго з пачынальнікаў беларускай навукі. вучонага-энцыклапедыста, змагара за шчаслівы лёс свайго народа.

**Барыс ГУРСКІ,**
**доктар геолага-мінералагічных навук, прафесар.**

І. МЕЛЕЖ, Г. ГАРЭЦКІ. 1976 г.

Фота Ул. КРУКА.

# ПАМЯЦІ ПАЭТАЎ

**На філалагічным факультэце Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага адзначана 90-годдзе з дня нараджэння Аркадзя Моркаўкі. Былі запрошаны жонка паэта Ксенія Лаўрэнцьеўна, дачка Ларыса Аркадзьеўна Проніна (якая зберагла ненадрукаваныя творы бацькі), у недалёкім мінулым настаўніца гісторыі, дырэктар школы; унучка паэта Ірына Качаткова — рэдактар выдавецтва «Полымя» і іншыя родзічы.**

**Яны расказалі пра жыццё А. Моркаўкі, яго любоў да кніг і мастацтва, адданасць педагагічнай працы (ён доўгі час працаваў выкладчыкам у Беларускім політэхнічным інстытуце, які закончыў яшчэ да вайны), незвычайную сціпласць і інтэлігентнасць.**

**Думкамі пра творчасць таленавітага творцы падзяліліся дацэнты М. Мішчанчук і А. Рагуля, паэт А. Камароўскі.**

**Вершы А. Моркаўкі прагучалі ў выкананні студэнтаў-філолагаў, у тым ліку і тых, што прыехалі да нас з сонечнай Туркменіі.**

**І. БАРКОЎСКІ,**
**студэнт філалагічнага факультэта.**

●

**Прыдняпроўе маё,**
**Прыдняпроўе,**
**Пералескі, крыніцы, лугі...**

**Гэтыя і іншыя радкі, вершы Васіля Матэвушава гучалі ў Княжыцкай сярэдняй школе Магілёўскага раёна ў дзень, калі б паэту-земляку споўнілася 75 гадоў. Гэтаму быў прысвечаны ў школе і нумар насценгазеты. Пра тое, як В. Матэвушаў падтрымліваў сувязі з роднымі мясцінамі расказаў настаўнік беларускай мовы і літаратуры сябра паэта М. Міхалёў.**

**Святлана Дубінава, Ала Баранава, Андрэй Арышчанка, Лена Гарбачова, Валя Юркова і іншыя школьнікі прачыталі вершы В. Матэвушава. І. Аношкін і П. Шасцерыкоў выступілі з успамінамі пра паэта.**

**А. НОВІК.**

# ВІНШАВАЛІ ЗЕМЛЯКА...

**У СШ № 1 г. п. Хоцімска сабраліся настаўнікі гарадскога пасёлка, вучні, прадстаўнікі грамадскасці, каб павіншаваць з 70-годдзем паэта П. Прыходзьку, які калісьці заканчваў гэтую школу. Выкладчыца беларускай мовы і літаратуры М. Мамліенка расказала аб яго жыцці і творчасці. Вучні старэйшых класаў і настаўнікі прачыталі вершы П. Прыходзькі.**

**Прысутныя з увагай слухалі расказ юбіляра пра першую настаўніцу, маці А. Куляшова Кацярыну Фамінічну Ратабыльскую. Цёпла сустрэлі хацімчане выступленні П. Пруднікава, А. Пісьмянкова, Г. Дзмітрыева.**

**Літаратурны вечар адбыўся таксама ў клубе калгаса «Перамога». Пісьменнікі пабывалі ў рэдакцыі раённай газеты «Шлях Кастрычніка», дзе адбылася сяброўская гутарка гасцей з членамі мясцовага літаратурнага аб'яднання.**

**НАШ КАР.**

*Па старонках друку*

# «...І рідна Білорусь, як дівчина»

Даўнія сувязі ва ўкраінскага пісьменніка, заслужанага работніка культуры БССР, лаўрэата прэміі «Пачуццё сям'і адзінай» імя Паўла Тычыны Алексы Юшчанкі з нашай рэспублікай. Тут ён бываў неаднойчы, мае нямала сяброў як сярод літаратараў, так і сярод простых чытачоў; беларускай зямлі прысвяціў шмат шчырых паэтычных радкоў.

Летась А. Юшчанка завяршыў паэму «Беларуская сімфонія», якую апублікаваў у адным з нумароў газеты «Літературна Україна». Твор гэты — хутчэй публіцыстычны маналог, у якім поруч з вершамі суседнічаюць *празаічныя* разважанні пра найбольш значныя падзеі, кантакты і ўзаемасувязі ўкраінцаў і беларусаў, сведкам якіх надаралася быць А. Юшчанку. Арганічна ўваходзяць у тканіну твора і вытрымкі з вершаў некаторых беларускіх паэтаў.

Прызнанне ў любові... Гаворка на пачатку твора мае ў многім традыцыйны характар. Аўтар прыгадвае адну са сваіх паездак на Гомельшчыну, якая дала яму так багата назіранняў, дазволіла яшчэ раз дакрануцца да хараства тутэйшых мясцін, адчуць вабнасць і прыгажосць беларускай мовы: «В словах — і грім, і сонце, й шовк; в словах звучання пребагате, відтінків безліч, кольорів...»

Адразу ж адбываецца пераход да больш даўняй сустрэчы з Беларуссю. У 1962 годзе святкавалася 80-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы. У нашу рэспубліку завіталі і ўкраінскія сябры. Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, незабыўная цётка Уладзя, перадала тады дзве вазы з партрэтам песняра П. Тычыну і М. Рыльскаму. Паўло Рыгоравіч не толькі ўспомніў свае сустрэчы з Купалам і Коласам, але і запытаўся ў прысутных: «Ці ведаеце Купалавага «Паэта і цэнзара»? Пераклад гэтага Купалавага верша, упершыню надрукаванага 17 кастрычніка 1919 года ў газеце «Звон», А. Юшчанка прыводзіць у паэме. Думаецца, неблагі мастацкі прыём. Той, хто знаёмы з гэтым Купалавым творам, ведае, што пясняр прысвячаў яго ранейшым, цяперашнім і... магчыма, будучым цэнзарам. Спашлёмся на арыгінал: «Цяпер ці калісьці— не ўцямлю, а толькі не лгу ні на міг, — паэты пісалі паэмы, а цэнзары рэзалі іх». Праўда, аднойчы цэнзар паступіў *інакш: ён «паэмы не сек і не* рэзаў, а толькі... пагладзіў крыху». Пасля такога «прыгладжвання» паэта не перажыў, «узяў і памёр». А цэнзар?! Вось як гэта гучыць у перакладзе:

Сидить, від бізділля тупіе,
Жбурнув олівець навмання,
І молиться, молиться щиро
За цензорів там він щодня.

Як кажуць, падстава для роздуму. Ды яшчэ якая, пакуль Закон аб друку толькі ў зародкавым стане.

Яшчэ адна сустрэча, пра якую згадвае А. Юшчанка, не на беларускай зямлі, а на ўкраінскай, праўда, на самай мяжы. Памятаецца, тады пра яе і «ЛіМ» *расказваў*. Творчая група ў складзе А. Асіпенкі, П. Макаля, А. Махнача, У. Крука, Б. Спрынчана зрабіла свайго роду рэйс на цеплаходзе па Прыпяці. Канечне ж, маршрут пралёг і ў Чарнобыль. Яшчэ б, працуе атамная электрастанцыя! Так шмат дае «бяспечнай» электраэнергіі. Сказаць папраўдзе, удзельнікі той паездкі выказвалі і некаторую трывогу, ды, як бы лепш мовіць, толькі ў кулуарах. Афіцыйна ж...

У Чарнобилі—чорнобривці...
Вітерець — по дзвінкій росі.
В хлопця квітка в грайливій
гривці.
Чорнобривці — в густій косі.

Сапраўды, «хто б подумав, що горем-бідою день веселий колись вгорне дим», прыйдзе агульная бяда, якая і па сённяшні дзень не толькі не змяншаецца? Яшчэ доўга і доўга не адпусціць нас ад сябе Чарнобыль...

Балючая памяць аб ахвярах сталінізму. У нас — Курапаты, ва ўкраінцаў — свае: «під Києвам, у Биківні, в сосновому лісе, знойдено поховання жертв того ж террору». Сярод ахвяр пазналі па муштуку з надпісам брата народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля Уладзіміра, расстралянага 23 верасня 1938 года. І шле А. Юшчанка паэтычны «Ліст Янку Брылю»— балючы, трывожны.

У паэме пачаргова ідуць гэтыя два пласты — радасці і болю, упэўненасці і трывогі, шчасця і бяды... Што ж, такое жыццё, асабліва ў наш трывожны і неспакойны век, які яшчэ нядаўна з гэткай лёгкасцю мы называлі нават і атамным.

І ўсё ж у «Беларускай сімфоніі» пераважаюць светлыя, лірычныя фарбы. А. Юшчанка згадвае імёны К. Кірэнкі, М. Багдановіча, звяртаецца да рамана «Сэрца на далоні» І. Шамякіна, расказвае пра сваю сустрэчу з П. Прыходзькам у Кактэбелі, прапануе пераклад верша Максіма Танка «Родная мова»... За ўсім гэтым — ода Беларусі, яе народу: «І рідна Білорусь, як дівчина...»

Слова любові гучыць і ў заключных, празаічных радках твора: «...Чую могутню весняну симфонію радості життя, чую переможний гомін незчисленних морських хвиль, шум зеленокрілля лісів і борів з білоруськоі землі і хвилі чуттів вливаються в нашу спільну симфонію. Кланяюсь тобі, добрий світе сябрів, квітчаю табе барвінком закоханоі душі. Удари чорних вітрів не можуть похитнути нашого братерства».

...Яшчэ адна старонка ў анталогію нашага сяброўства і ўзаемасувязяў!

**НАШ АГЛЯДАЛЬНІК.**

# «ТАКСАМА ПАМЫЛЯЮЦЦА І ТЫЯ...»

**Позірк у мінулае**

Ідэя суцэльнай калектывізацыі, што выспела ў канцы 20-х гадоў у імперскай свядомасці Сталіна і яго аднадумцаў, закранула не толькі сельскую гаспадарку, але і мастацтва. Яна выдатна адпавядала канцэпцыі цэнтралізацыі ўлады, засяроджання яе ў руках нямногіх людзей, што трымаліся на вяршыні адміністрацыйна-каманднай піраміды з «пікам» Сталіна.

Шматлікія літаратурна-мастацкія арганізацыі, што існавалі ў 20-х гадах, зразумела, не давалі магчымасці трымаць як след «лейцы» ў адных руках, каб скіроўваць адначасова ўсіх мастакоў у пажаданым кірунку, замаруджваць ці, наадварот, паскараць увесь мастацкі рух... Менавіта гэтым тлумачыцца роспуск ва ўсіх рэспубліках у гады «вялікага пералому» літаратурна-мастацкіх арганізацый. У Беларусі былі ліквідаваны «Узвышша», «Маладняк», «Полымя» і некаторыя іншыя, закрыты іх перыядычныя выданні, асобныя пісьменнікі абвінавачаны ў «нацдэмаўшчыне». Было праведзена своеасаблівае «раскулачванне» ў літаратуры, што ў той час, як правіла, завяршалася арыштамі і ссылкамі. Тым больш, што «кампрамат» знайсці было няцяжка: у гарачай палеміцы паміж асобнымі літаратурнымі суполкамі пісьменнікі нагаварылі шмат лішняга адзін на аднаго, даходзіла нават да палітычных абвінавачванняў...

Урэшце, засталася адна БелАПП (Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў), у якой галоўную скрыпку ігралі Бэндэ і «падбэнднікі» (слова Якуба Коласа): прымалі ў свае шэрагі «ісцінна пралетарскіх пісьменнікаў, каралі або мілавалі «папутчыкаў» і «адраджэнцаў», на смерць змагаліся з «нацдэмамі»... Актыўна сілкуючыся вульгарна-класавымі ідэямі РАППа (Расійскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў), белаппаўцы распаясаліся ваўсю, лічачы, што толькі яны — асноўная моц і надзея савецкай літаратуры.

І вось як гром з яснага неба—пастанова ЦК ВКП(б) «Пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый» (23 красавіка 1932 года). Гэтай пастановай распускаліся ўсе існаваўшыя на той час літаратурна-мастацкія арганізацыі. Ставілася задача стварыць у краіне адзін пісьменніцкі саюз — з адзіным кіруючым цэнтрам, адзіным кіраўніцтвам. Зразумела, найбольш адчувальна гэта пастанова закранула саму БелАПП, якая распускалася (іншыя арганізацыі проста ўжо не існавалі). Янка Купала, Якуб Колас і іншыя пісьменнікі, якіх белаппаўцы пагардліва называлі «спадарожнікамі», «папутчыкамі», безумоўна, не хавалі радасці: яны ўраўніваліся ў правах з усімі астатнімі літаратарамі. Думалася: раз не будзе розных літаратурных плыняў, то скончацца пісьменніцкія сваркі, узаемныя нападкі, настане творчы мір.

Пастанова ЦК ВКП(б) была надрукавана ў «Літаратуры і мастацтве» 30 красавіка. А ўжо ў наступным нумары газеты публікаваліся ўхвальныя пісьменніцкія водгукі на гэту падзею. Выказваліся Янка Купала, Якуб Колас, Сымон Баранавых, Я. Скрыган, П. Галавач, А. Кучар, Максім Лужанін, Кандрат Крапіва, У. Хадыка, М. Кульбак. Каб надаць водгукам дакументальную верагоднасць, друкаваліся факсіміле подпісаў пісьменнікаў.

Безумоўна, усе літаратары віталі партыйную пастанову, гаварылі пра яе надзённасць, своечасовасць. Яшчэ не настаў час востра крытыкаваць БелАПП, і таму амаль усе (за выключэннем народных паэтаў) рабілі рэверансы ў бок гэтай арганізацыі. Так, У. Хадыка нагадваў, што «БелАПП за ўвесь час свайго існавання прайшла вялікі пераможны шлях змагання за кадры пралетарскай літаратуры, за яе гегемонію». Цішка Гартны, (ён разам з М. Зарэцкім і Алесем Дударом выступіў у той жа газеце праз нумар) успомніў «вялікую працу» БелАПП «па арганізацыі пралетарскай літаратуры, па змаганні з нацдэмаўскімі плынямі ў літаратуры, па закліку ўдарнікаў і інш». Сапраўды, у белаппаўцаў былі такія «заслугі»...

Разам з тым у асобных выказваннях утрымліваліся і папрокі ў адрас БелАПП, якая «далёка недастаткова цікавілася работай, творчымі шуканнямі, «творчымі мукамі» пісьменнікаў-саюзнікаў, мала дапамагала ім» (П. Галавач, А. Кучар). Не рэдкімі былі «аднабаковы падыход да адных пісьменнікаў і мінанне другіх» (У. Хадыка), «левыя загібы ў крытыцы спадарожніцкай літаратуры, некрытычнае навешванне ярлыкоў.., адзнакі групаўшчыны і лішнія сваркі паміж асобнымі гурткамі і пісьменнікамі ў самой БелАПП» (Цішка Гартны).

Аднак нягледзячы на такую крытыку, БелАПП не давалася ў крыўду. Кандрат Крапіва, мяркуючы, што «знойдуцца адзінкі, якія зразумеюць пастанову «па-свойму», папярэджваў: «У сувязі з гэтым трэба цвёрда заявіць: пастанова ні ў якім разе не азначае таго, што пралетарская літаратура не апраўдала сябе і таму адбіраюцца ад яе прывілеі, а якраз наадварот: пралетарская літаратура так вырасла і ўмацавалася, што для яе не страшны цяпер уплывы варожых элементаў, што яна здолее пастаяць за сябе ў любы час». Адзін з «варожых элементаў», Алесь Дудар, тут жа, на старонках «Літаратуры і мастацтва», прылюдна «раззбройваўся»: «Перад тымі беларускімі пісьменнікамі, да якіх належу я, якія ў сваім мінулым маюць цяжкі багаж актыўнага супрацоўніцтва з класавым ворагам (?! — **В. Р.**), ва ўсю веліч паўстае задача шчыльнейшага ўключэння ў сацыялістычнае будаўніцтва...»

У тым жа нумары «Літаратуры і мастацтва», дзе былі надрукаваны выказванні пісьменнікаў, змяшчаліся (толькі на апошняй, чацвёртай, старонцы газеты) эпіграмы Цішкі Гартнага на чатырох «спадарожнікаў» — Янку Купалу, Якуба Коласа, Змітрака Бядулю, М. Зарэцкага. Вось як, у прыватнасці, пасміхаўся адзін з пачынальнікаў беларускай пралетарскай літаратуры з Янкі Купалы:

**У шкапу за шклом**
**«Жалейка» з «Шляхам».**
**А побач зморацы «Гусляр»...**
**На іх глядзіць з-пад акуляр**
**Паэта сумны з нейкім жахам.**

**Прайшло-мінула шэраг год —**
**Здалён напеўныя рулады...**
**Ён твор змяніў на пераклады,**
**А юрку нават на факстрот.**

**І толькі прыдзе тое лета,**
**Як думкі шмыгаюць у сад.**
**Там ліра дбайная паэта**
**Бранчыць рыдлёўкай каля град.**

Крыху весялейшы быў жарт з Якуба Коласа. У адрозненне ад Янкі Купалы, якому амаль не было чым пахваліцца перад бурнай сучаснасцю (калектывізацыю прывітаў усяго адным вершам «Сыходзіш, вёска, з яснай явы»), ён напісаў пра новае калгаснае жыццё аповесць «Адшчапенец». Хаця, праўда, і над ім вісіць груз ранейшых памылак, памылковых твораў...

**«Зямля» яго зусім не тая —**
**Знясла яна на нівах межы...**
**І вось глядзіць на след іх свежы**
**«Сымон-музыка», а не грае.**
**Канцы схавалі «Шляхі волі»**
**Кудысьці ў цёмнае падполле.**
**Адзін Прахор — стары праныра —**
**У калгасе нішчыць непаладкі,**
**Змяніўшы назву свайго кныра**
**На свіна-татку.**

Ці ж не павінны былі ў такой сітуацыі Янка Купала і Якуб Колас радавацца партыйнай пастанове, якая адкрывала новыя гарызонты творчасці, свяцілася зарою новай надзеі? Якуб Колас у выказванні «За літаратуру, вартую эпохі...» запэўніваў чытачоў, што «пісьменнікі апраўдаюць гэта высокае давер'е партыі сваёй практычнаю высокамастацкай работай...».

«Новы напрамак, які надае пастанова ленінскага ЦК літаратурна-мастацкай справе, сведчыць аб тым, што і ў гэтай галіне мы таксама дасцігнем нявіданых сусветных поспехаў,— пісаў Янка Купала. — Вялікае давер'е, аказанае партыяй савецкім пісьменнікам, якія стаялі па-за пралетарскімі пісьменніцкімі арганізацыямі, само сабой абавязвае іх апраўдаць гэта давер'е і тварыць рэчы, годныя нашае вялікае эпохі».

Спакойная развага чалавека, які намераны сур'ёзна і грунтоўна працаваць на карысць роднага народа. Вера ў тое, што будзе лепш, у тым ліку — і ў літаратурнай гаспадарцы...

Але дзе ж тут будзеш спакойны, калі побач Алесь Дудар, б'ючы сябе ў грудзі, каючыся ў неіснуючых грахах, заклікае: «Класавая пільнасць і баяздольнасць павінны быць даведзены да найвышэйшай ступені». Калі Майсей Кульбак пагрозліва-прароча папярэджвае: «Таксама памыляюцца і тыя, якія думаюць, што з пастановай ЦК паслабне класавая барацьба ў літаратуры, і ластаўка зможа ляцець, куды яна захоча. Якраз наадварот...»

М. Кульбак, на жаль, як у ваду глядзеў.

Неўзабаве ў полымі «абвостранай класавай барацьбы» згарэла большасць з тых, хто вітаў пастанову ЦК ВКП (б) «Пра перабудову літаратурна-мастацкіх арганізацый»: С. Баранавых, П. Галавач, Цішка Гартны, Алесь Дудар, М. Зарэцкі, М. Кульбак, У. Хадыка... Абгарэў моцна, але ацалеў Я. Скрыган... Усе — члены адной пісьменніцкай арганізацыі.

Ластаўка так і не змагла паляцець, куды яна хацела...

**Вячаслаў РАГОЙША.**

# ЗВІНЕЦЬ ЦЫМБАЛАМ І ГАРМОНІКУ

**У рамках III Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці ў Беларускай ССР з мэтай прапаганды народнай інструментальнай музыкі, узбагачэння рэпертуару самадзейных калектываў і выканаўцаў лепшымі ўзорамі нацыянальнай музыкі, эстэтычнага выхавання моладзі калегія Міністэрства культуры БССР, прэзідыум праўлення Музычнага таварыства БССР, сакратарыят Белсаўпрофа, калегія ўпраўлення Магілёўскага аблвыканкома і сакратарыят аблсаўпрофа пастанавілі правесці 7—8 ліпеня 1990 г. у г. Магілёве рэспубліканскае свята народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік».**

**Падрыхтоўка і правядзенне свята народнай музыкі ўскладзена на Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр культуры, рэспубліканскі міжсаюзны Палац культуры прафсаюзаў Беларусі, Музычнае таварыства БССР, упраўленне культуры Магілёўскага аблвыканкома. Свята народнай музыкі заклікана садзейнічаць далейшай прапагандзе народна-інструментальнай музыкі, павышэнню ідэйна-мастацкага ўзроўню рэпертуару выканаўцаў, узбагачэнню яго лепшымі ўзорамі беларускай народнай музыкі і творамі савецкіх кампазітараў, — арганізацыі вольнага часу насельніцтва, больш шырокаму далучэнню моладзі да самадзейнай мастацкай творчасці.**

**Свята будзе праводзіцца ў два туры — абласныя святы (май—чэрвень 1990 г.) і заключны канцэрт у г. Магілёве 7—8 ліпеня 1990 г. Рэспубліканскаму святу народнай музыкі папярэднічаюць абласныя святы народнай музыкі. Вобласці прадстаўляюць на Рэспубліканскае свята народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік» канцэртную праграму (да 4—5 хвілін) з удзелам лепшых аркестравых калектываў, ансамбляў народнай музыкі, ансамбляў гарманістаў, салістаў, гарманістаў, выканаўцаў прыпевак (каля 50 чалавек ад вобласці). Пры падборы рэпертуару неабходна звярнуць увагу на творы, якія адлюстроўваюць рэгіянальныя асаблівасці. Гэта могуць быць апрацоўкі народных мелодый, арыгінальныя творы для аркестраў народных інструментаў, ансамбляў, п'есы беларускіх і савецкіх кампазітараў.**

**Пры ацэнцы выступленняў аркестравых калектываў, ансамбляў народнай музыкі, ансамбляў гарманістаў, салістаў, выканаўцаў прыпевак улічваюцца выканаўчае майстэрства, мастацкі ўзровень рэпертуару, зберажэнне мясцовых традыцый у музычных творах, рэжысура канцэртнай праграмы, сцэнічная культура, вобразнае рашэнне сцэнічнага касцюма, мастацкае афармленне канцэртнай праграмы.**

**Лепшыя выканаўцы па выніках абласных свят адзначаюцца памятнымі дыпломамі. Удзельнікі заключнага этапу рэспубліканскага свята па рашэнню журы ўзнагароджваюцца дыпломамі і каштоўнымі падарункамі.**

## У «КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА»

Ф. БАГУШЭВІЧ. Дудка беларуская. Вершы. Факсімільнае выданне. Мн., «Мастацкая літаратура», 1990.—35 к.

Н. МАЦЯШ. Шчаслівай долю назаві... Лірыка. Мн., «Мастацкая літаратура», 1990.—35 к.

П. ПРУДНІКАЎ. Познія ягады. Вершы, паэмы. Мн., «Мастацкая літаратура», 1990.—70 к.

Б. САЧАНКА. Сняцца сны аб Беларусі. Мн., «Мастацкая літаратура», 1990.—1 р. 20 к.

СЛАВАЦКАЯ ПАЭЗІЯ. Мн., «Мастацкая літаратура», 1990.—1 р. 40 к.

## АБ'ЯВЫ

**ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ АН БССР**
**аб'яўляе конкурс**
**на замяшчэнне вакантных пасад**

загадчыка аддзела па вывучэнні міжнацыянальных адносін, старшага навуковага супрацоўніка — філолага, навуковага супрацоўніка — мастацтвазнаўцу.

Тэрмін падачы дакументаў — 1 месяц з дня апублікавання аб'явы.

Дакументы накіроўваць на адрас: 220600, г. Мінск, вул. Сурганава, д. 1, корп. 2. Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 01588 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.